# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 3 (673) 19 СТУДЗЕНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.


## Адроджаная з попелу

**17 студзеня 1945 г. у выніку новага наступлення была вызвалена Варшава. Была яна разбурана да тла. Спецыяльна падабраныя атрады СС і ім падобныя вуліца па вуліцы разбуралі сталіцу, бамбілі яе і палілі, здзекваліся над яе насельніцтвам, урэшце выганяючы яго зусім. Нямецкія дзеянні выклікалі смерць каля 200 тысяч жыхароў сталіцы. Спаліліся або былі ўкрадзены шматлікія памятнікі старадаўнасці. Варшава адрадзілася як легендарны фенікс. Яна стала яшчэ прыгажэйшай. У яе адраджэнні прымаў удзел увесь народ, кожны з нас, грамадзянін ПНР.**

**На здымку: Новая Варшава. Кааператыўныя жыллёвыя дамы на скрыжаванні вуліц Каперніка і Ардынацкай.**






Грабарка, што пад Сямяцічамі, славіцца сярод праваслаўных, як Чэнстахова сярод католікаў, сваім гадавым фэстам.

Я аднак хачу расказаць не пра фэст, а пра звычайны лёс людзей у вёсцы Грабарка.

Маім праваднікам па грабарскіх справах будзе таварыш Годун. Ён тут вядомы чалавек. Сакратар грамадскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі, кіраўнік прадпрыемства, якое перапрацоўвае мельніцкую крэйду, арганізатар грамадскіх чынаў — проста дзеяч.

— Хочаце ведаць, як даўней жылося? — паўтарае ён мае пытанні. Мой бацька меў трохгектаровую гаспадарку. Зямля тут слабая, пясочная. На шчасце, я ў бацькоў адзін. Не трэба было тады думаць пра пасаг для дочак, не было патрэбы дзяліць зямлю між братоў. Дык неяк вязалася канец з канцом. У пачатковай школе навучыўся я крыху чытаць і пісаць і на тым мая тады адукацыя закончылася. Ужо пасля вайны прышлося яе папаўняць на розных курсах. Аставалася чакаць, калі бацька дазволіць пераняць ад яго гаспадарку. Так перажылі мы акупацыю і дачакаліся народнай улады. Засвітала надзея на лепшае жыццё. Пакуль што была гэта толькі надзея. Але я верыў, цвёрда верыў, што мусіць быць інакш, лепш.

Таварыш Годун прагна зацягваецца папяросай, маўчыць. Відаць нахлынулі нейкія цяжкія ўспаміны, якімі нялёгка яму падзяліцца з чужымі людзьмі, бо кранаюць яны зажыўшыя ўжо раны.

— Прайшло вось 20 з лішнім год, — гаворыць далей, — нарасло цэлае новае пакаленне маладых людзей. Яны не ведаюць, не памятаюць тых часоў... і здаецца ім, што народная ўлада з'явілася ў нас, як падарунак ад лёсу, як бы разам з імі нарадзілася... А нам прыходзілася змагацца за яе са зброяй. І не ў вайну, а ўжо ў мірны час. Памятаю, недзе ў 1947 годзе на нашу вёску нахлынула лясная банда. Было іх нейкіх паўтары сотні. У Сямяцічах разбілі яны тады польскую ваенную часць, а нас аблупілі да гала. Быў сярод нас адзін вопытны, разумны чалавек — Іван Гладыш. Пры савецкай уладзе вучыў ён у школе. Гэта ён падказаў нам, што рабіць, заахвочваў да самаабароны. Незадоўга прыехаў з Сямяціч капітан Шчавінскі, прывёз нам зброю. Так узнікла ў нас армоўская арганізацыя. 5 чалавек да яе прыступіла: я, мой дваюрадны брат, Іван Гладыш, яго брат Міхаіл Гладыш і Антон Шусткоўскі. Усе мы зараз жа запісаліся ў члены Польскай рабочай партыі... Лёгка сёння гаварыць аб гэтым,

(Працяг на стар. 4)

# БГКТ

### У СПРАВЕ СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРЧЫХ СХОДАЎ У ГУРТКАХ

Згодна з планам працы ГП справаздачна-выбарчыя сходы ў гуртках БГКТ павінны пачацца ў студзені і закончыцца ў канцы сакавіка. Гурткі Беларускага таварыства абмяркуюць дагэтуляшнюю дзейнасць, накрэсляць далейшы план працы і выбяруць новыя праўленні. Важна тое, каб гэтыя новыя праўленні былі больш актыўныя ад папярэдніх, каб у іх склад увайшло як найбольш ініцыятыўных людзей, людзей, якія карыстаюцца аўтарытэтам у сваім асяроддзі.

Пажаданым было б, каб да праўленняў гурткоў уваходзілі настаўнікі. Менавіта настаўнікі добра прыслугоўваюцца для нашай арганізацыі, таму што ў асноўным яны найбольш займаюцца аматарскім рухам і падбіраюць належны беларускі рэпертуар для драмгурткоў. Менавіта настаўнікі з'яўляюцца найбольшымі прапагатарамі роднага слова, роднай песні, культуры.

Вельмі важнай справай з'яўляецца трапны выбар старшыні гуртка. Практыка паказала, што ад старшыні вельмі многа залежыць праца гуртка. У асноўным ад яго аўтарытэту, арганізацыйнай памысловасці ўмеласці аб'ядноўвання людзей у творчы жывы калектыў, які здольны развіваць культурна-асветную працу. Вельмі важна, каб праўленне гуртка на чале са старшынёй умела навязаць кантакт і супрацоўніцтва з існуючымі ў вёсцы арганізацыямі, каб супольна з імі арганізавала паасобныя мерапрыемствы.

У асноўным да гурткоў Беларускага таварыства належыць моладзь. І таму перш за ўсё неабходнае нашым гурткам арганізаваць культурна-асветную працу з маладзёжнымі арганізацыямі, да якіх залічаюцца: Саюз вясковай моладзі (ЗМВ) і спартыўныя калектывы (ЛьЗС). Многія гурткі БГКТ замала звяртаюць увагу на падпіску «Нівы».

Вось на гэту справу на справаздачна-выбарчых сходах неабходна звярнуць увагу. Трэба звярнуць таксама ўвагу на паводзіны сваіх членаў, на тое, як яны павышаюць свой культурны ўзровень, у тым ліку і на павышэнне сельскагаспадарчых ведаў. Ёсць такія гурткі, якіх усе члены павышаюць сельскагаспадарчыя веды на сельскагаспадарчых курсах СПР-ах і ПР-ах. І гэта добра. Разыходзіцца аб тое, каб члены Беларускага таварыства былі таксама добрымі гаспадарамі, каб разуменне культуры ў іх было ўсебаковае, каб не агранічвалася толькі да аматарскага руху.

Справаздачна-выбарчыя сходы павінны прычыніцца да актывізацыі гурткоў нашай арганізацыі, павінны прычыніцца да таго, каб кожны яе член усведамляў адказнасць за дзейнасць БГКТ, за лёсы нашага таварыства.

### НЕКАЛЬКІ СЛОЎ АБ КАНФЕРЭНЦЫЯХ

Ужо ў Бельскім, Міхалоўскім Гарадоцкім, Сямяціцкім і Беластоцкім (гарадскім) аддзелах адбыліся канферэнцыі, якія былі прысвечаныя заданням БГКТ у святле пастаноў V-га з'езда ПАРП.

Трэба сказаць, што канферэнцыі гэтыя споўнілі свае заданні. Адначасова трэба ўспомніць і аб тым, што не ўсе яны былі добра падрыхтаваныя. Напрыклад, у Бельску дакладчык, які выступаў з дакладам аб заданнях для БГКТ, дрэнна па-беларуску чытаў. У Саколцы на канферэнцыю не сабраліся актывісты. Гэта сведчыць аб недахопе арганізацыйнага забеспячэння з боку праўленняў аддзелаў. (мс)

# ГАСПАДАРЧЫ ПЛАН БЕЛАСТОЧЧЫНЫ НА 1969 ГОД

Насталі вось буднішнія дні новага 1969 года. Сустракаючы яго, жадалі мы і жадалі нам лепшага жыцця і шчасця. Толькі трэба ведаць, што лепшае жыццё і шчасце перш за ўсё залежыць ад нашай працы — і толькі ад працы, добрай, ахвярнай, карпатлівай.

Да чаго, да якіх мэт нам імкнуцца?

Перспектывы нашых імкненняў у 1969 годзе ўстанавілі радныя ваяводскай рады — нашы прадстаўнікі, якім у час выбараў даверылі мы кіраванне гаспадарчым, грамадскім і культурным жыццём нашай Беласточчыны. У апошніх днях мінулага года аднагалосна прынялі яны гаспадарчы план і бюджэт на 1969 год для Беластоцкага ваяводства.

Прадбачвае ён:

— прырост вартасці сельскагаспадарчай прадукцыі на 2,7 працэнта.

— прырост вартасці агульнай (валавой) прадукцыі дзяржаўнай і спулдзельчай прамысловасці на 9,2 працэнта.

Як разумець гэтыя працэнты?

Абазначаюць яны, што ў параўнанні да 1968 года ў свіранах нашых гаспадароў знойдзецца, для прыкладу, амаль на 21 тысячу тон больш збожжа, што бульбы будзе больш на звыш 100 тысяч тон, што на кожнай сотні гектараў земляных угоддзяў Беластоцкага ваяводства пасвіцца будзе звыш 47 кароў, амаль 77 парсюкоў, амаль 22 авечкі і толькі колькасць коней павінна астацца нязменнай, бо няма гаспадарчай патрэбы, каб разводзіць гэтую жывёлу. Нашых «буланых», «гнядых» і «сівых» будуць штораз больш падмяняць трактары.

Абазначаюць гэтыя працэнты таксама, што вартасць прадукцыі прамысловых прадпрыемстваў Беласточчыны павялічыцца прыблізна на 1 мільярд 400 мільёнаў злотых. На такую суму грошай будзе больш тавараў у магазінах і крамах, больш матэрыялаў на пабудовах і больш рознага абсталявання ў фабрыках.

Каб здзейсніліся гэтыя намеры, неабходна:

— добрая воля людзей і іх ахвота да працы,

— і грошы для фінансавання планаваных мерапрыемстваў.

На добрую волю нашых грамадзян, думаю, няма прычын, каб наракаць. Як тады з грашыма?

На патрэбы сельскай гаспадаркі Беластоцкага ваяводства прызначана амаль 865 мільёнаў злотых.

(Працяг на стар. 4)

# Падзеі · Здарэнні · Факты · Каментарыі · Весткі

 **СВЕТ**

## УРАДАВЫ КАБІНЕТ НІКСАНА

Ужо ад 20 студзеня ў Белым Доме ў Вашынгтоне будзе новы гаспадар — прэзідэнт Р. Ніксан. Дагэтуляшні прэзідэнт Джонсан, на якога сумленні эскалацыя в'етнамскай вайны, пакіне прэзідэнцкі палац. Агенцтвы інфармуюць, што Джонсан стараецца даказаць, што ён добраахвотна пакідае гэтую функцыю і адразу пасля 20-га едзе з сям'ёй адпачываць. Але свет ведае, чаму Джонсан сапраўды быў вымушаны пакінуць Белы Дом — неразвязаныя справы в'етнамскай вайны, а таксама нявырашаныя ўнутраныя праблемы ЗША, гэта асноўныя прычыны.

Тым часам Ніксан абвясціў склад свайго рэспубліканскага кабінета. У Вашынгтоне пануе перакананне, што Ніксан захоча **самастойна** рабіць найвялікшы ўплыў на палітыку новай адміністрацыі. На падставе гэтага мяркуецца, што роля асабістых дарадчыкаў прэзідэнта будзе на многа большая, чым членаў урада. Аб вышэйшым сведчыць і той факт, што ў новым кабінеце няма асабістасцей, якія б з дагэтуляшняй палітычнай дзейнасці былі вядомымі ў міжнародных маштабах. Урад Ніксана не мае таксама характару «трэста мазгоў», у якім заселі б людзі з шырокімі разумовымі перспектывамі, здольныя ахвяраваць Злучаным Штатам новы падыход да цяжкіх унутраных спраў.

З другога боку ўвесь ход дагэтуляшняй палітычнай дзейнасці, а перш за ўсё выбарчая кампанія Ніксана, выказалі, што захоча ён у найменшай ступені асабіста займацца ўнутранымі справамі ЗША. Ніксан прапанаваў, каб гэтыя праблемы перадаць штатавым урадам. З гэтага можна меркаваць, што ў тых справах, у якіх пастановы будзе вырашаць Вашынгтон, новы прэзідэнт дасць магчыма вялікую свабоду дзеяння членам свайго кабінета.

## ААН — 68

У часе апошняй сесіі Генеральнай Асамблеі ААН адбылося 561 пасяджэнне, якія працягваліся 1.147 гадзін і 10 мінут. На працягу ўсяго мінулага года адбылося 2580 пасяджэнняў, у тым ліку 600 прыватных сустрэч.

Дакументы Генеральнай Асамблеі распаўсюджана ў 30 тыс. экземпляраў. Для друку дакументаў апублікаваных у 1968 годзе ААН патрабавала 1.738 тон паперы.

## НАСЕЛЬНІЦТВА КУБЫ

На Кубе апублікавана прыблізныя даныя, якія датычаць колькасці насельніцтва на Кубе ў канцы 1968 года. Лік насельніцтва Кубы ацэнена на 8.074 тысячы. З гэтага вынікае, што ад 1959 г., калі Куба налічвала 6.692 тыс., насельніцтва прыбыло на востраве 1.372.000 жыхараў.

## ВАРВАРСКІ БАЛАНС

Прадстаўнік амерыканскай авіяцыі ў Сайгоне заявіў на Новы Год, што ў 1968 г. амерыканскія самалёты «Б-52» скінулі на В'етнам 630 тысяч тон бомб.

**А. Кар.**

 **БССР**

## ПАВЕДАМЛЕННІ

Газеты друкуюць паведамленні аб рэалізацыі прадукцыйных абавязацельстваў, прынятых у гонар **Пяцідзесяцігоддзя** Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі. Упамінаецца пра дасягненні калгасаў, м. ін., імя Мічурына, імя Вільчкоўскага, імя Чапаева, «17 верасня», у Баранавіцкім раёне.

## УРАЧЫСТА

Урачыста адзначана Пяцідзесяцігоддзе ў Гродне, дзе на цэнтральнай плошчы адбыўся агульнагарадскі мітынг, на якім выступіў з прамовай першы сакратар гарадскога камітэта Кампартыі Беларусі **А. Магільніцкі.** На мітынгу выступалі — начальнік механічнага цэха тонкасуконнага камбіната **Н. Рамановіч,** студэнтка педагагічнага інстытута **Ганна Лаздоўская** і іншыя.

У падобным настроі адбылося гэта вялікае свята і ў горадзе Брэст, дзе выступілі — першы сакратар гаркома КПБ **У. Грынько,** стары камуніст **Г. Прахін,** тынкоўшчык **В. Дарашук,** і іншыя. На ўрачыстым пасяджэнні гарадскога камітэта Кампартыі Беларусі і гарадскога Савета дэпутатаў працоўных сакратар абласнога камітэта партыі **Д. Туравец** уручыў гораду Брэсту Памятны сцяг ЦК Кампартыі Беларусі, Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, Савета Міністраў БССР і Беларускага саюза прафесіянальных арганізацый.

## У ТАН

У дыпламатычным прадстаўніцтве Беларускай ССР пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Йорку адбыўся вялікі прыём у гонар Пяцідзесяцігоддзя Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

На прыёме прысутнічалі Генеральны сакратар У Тан і яго намеснікі, дыпламаты сацыялістычных краін, афраазіяцкіх краін, заходнееўрапейскіх і лаціна-амерыканскіх. Сярод гасцей — савецкія і замежныя журналісты, прадстаўнікі прагрэсіўнай амерыканскай грамадскасці, м. ін., старшыня Кампартыі **Генры Уінстон.**

Прыём прайшоў у цёплай і дружалюбнай абстаноўцы.

## ІМЯ

Савет Міністраў Беларускай ССР пастанавіў прысвоіць Магілёўскай стужкаткацкай фабрыцы і Крычаўскаму заводу гумавых вырабаў імя **Пяцідзесяцігоддзя Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.**

## «МІНСК — 32»

На Мінскім заводзе лічыльна-электронных машын ужо пачата серыйны выпуск машын «Мінск—32», якія здольныя выконваць у маланкавым часе найбольш складаныя разлікі.

## АКАДЭМІЯ

Акадэмія навук Беларускай ССР узнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

## КНІЖКУ

Выдавецтва «Вышэйшая школа» выпусціла кніжку — **«Нам стала роднай Беларусь».** Аўтарамі кніжкі з'яўляюцца замежныя студэнты, якія вучацца ў беларускіх вышэйшых школах. **(С. Я.)**

 **ПОЛЬШЧА**

## ЭКАНАМІСТЫ

З аказіі 50-ай гадавіны паклікання да жыцця Польскага эканамічнага таварыства адбылася ў Варшаўскім Палацы Сташыца сустрэча, у якой прынялі, між іншым, удзел: Балеслаў Яшчук, Стэфан Ендрыхоўскі, Стэфан Ігнар і Яўгеніюш Шыр. Выступаючы з прамоваю Балеслаў Яшчук сцвердзіў, што ўзрастае запатрабаванне на прымяненне дасягненняў эканамічных навук у практыцы. У сувязі з тым, падобна як у тэхнічных навуках, трэба наблізіць эканамічную тэорыю бліжэй практыкі.

## СВІНАУЙСЦЕ II

У гэтым годзе закончана будзе будова базы экспарту вугалю ў Свінауйсці, т.зв. «Свінауйсце II». Пераладоўвацца тут будзе да 3 мільёнаў тон вугалю ў год.

## ПАЗЫКІ

На пазыкі для індывідуальных гаспадароў, спулдзельняў прадукцыйных і сельскагаспадарчых гурткоў прызначаецца ў гэтым годзе звыш 24 мільярдаў злотых, гэта значыць на 1,5 мільярда злотых больш, чымсьці ў мінулым годзе. Прысвячаюцца яны на падтрымку гаспадарчых ініцыятыў сялян, выкарыстанне гаспадарчых рэзерваў, развіццё будаўніцтва. Прадбачваецца, што прызначаныя на гэта сродкі поўнасцю пакрыюць запатрабаванне вёскі.

## НАСЕННЕ

Прадпрыемствы, якія знаходзяцца ў распараджэнні Аб'яднання гадоўлі раслін і насельніцтва, перакажуць гаспадарам пад сёлеташнія плёны звыш 294 тысячы тон пасяўнога зерня, гэта значыць на 33 тысячы тон больш, чымсьці ў мінулым годзе. Пастаноўка кваліфікаванай насеннай бульбы пабольшыцца да 1.071 тысячы, гэта значыць на звыш 110 тысяч тон.

## МІЖНАРОДНАЕ ПРЫЗНАННЕ

Польская навука і паасобныя вучоныя цешацца высокім прызнаннем у міжнародных навуковых асяроддзях. Навуковыя працаўнікі Польскай Акадэміі навук у 1967 годзе прымалі ўдзел у працы 130 розных міжнародных навуковых арганізацый і 141 замежных навуковых таварыстваў. 49 польскіх вучоных уваходзіла ў састаў кіруючых органаў 43 розных міжнародных арганізацый. У мінулым годзе гэтае становішча польскіх вучоных у міжнароднай навуцы не толькі ўтрымалася, але нават узмоцнілася.

## ЗСЛь

Ва ўсёй краіне члены Аб'яднанага людовага стронніцтва (ЗСЛь) прымаюць актыўны ўдзел у агульнай дыскусіі над праектам пастаноў V кангрэса ЗСЛь. Дыскусія датычыць ідэйна-палітычных і арганізацыйных праблем ЗСЛь, праблем развіцця і мадэрнізацыі нашай сельскай гаспадаркі, узросту багацця краіны і ўдзелу ў тым паасобных арганізацыйных адзінак ЗСЛь. Ва ўсёй краіне пачаліся павятовыя з'езды ЗСЛь, на якіх выбіраецца дэлегатаў на V кангрэс. (п)

 **ВАЯВОДСТВА**

## ВАЯВОДСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ДЭМАКРАТЫЧНАГА СТРОННІЦТВА

12 студзеня г.г. адбылася ў Беластоку Ваяводская канферэнцыя Дэмакратычнага стронніцтва. Дэлегаты на канферэнцыю абмеркавалі дзейнасць гэтай партыі на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства і выбралі 7 дэлегатаў на агульнакраёвы кангрэс Дэмакратычнага стронніцтва, які незадоўга адбудзецца ў Варшаве.

Зараз на Беласточчыне дзейнічае 118 гурткоў Дэмакратычнага стронніцтва. Рады гэтай партыі на працяту трох апошніх год павялічыліся ў Беластоцкім ваяводстве на 35 працэнтаў. Гурткі Дэмакратычнага стронніцтва асабліва актыўна займаюцца праблемамі ажыўлення гаспадарчага жыцця ў малых гарадах, справамі спулдзельчасці працы і рамяства. Звыш 150 актывістаў Дэмакратычнага стронніцтва прымае актыўны ўдзел у дзейнасці мясцовых арганізацый Фронту адзінства народа. Трэба таксама адзначыць, што гурткі Дэмакратычнага стронніцтва актыўна і па-сяброўску супрацоўнічаюць з пярвічнымі арганізацыямі ПАРП і гурткамі Аб'яднанага людовага стронніцтва.

У Ваяводскай дакангрэсавай канферэнцыі Дэмакратычнага стронніцтва, між іншымі, прынялі ўдзел: член Рады Дзяржавы, намеснік старшыні Цэнтральнага Камітэта Дэмакратычнага стронніцтва, пасол Беласточчыны — Яўгенія Красоўская, сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку — Вітальд Мікульскі і іншыя прадстаўнікі ваяводскіх партыйных, грамадскіх і дзяржаўных устаноў.

## «ЗБОВІД»

10 студзеня г.г. адбылася ў Беластоку акружная канферэнцыя Саюза барацьбітоў за свабоду і дэмакратыю, які аб'ядноўвае ветэранаў рэвалюцыйнага падпольнага змагання і другой сусветнай вайны. На тэрыторыі Беластоцкага ваяводства гэтая арганізацыя налічвае зараз звыш 7 500 членаў. У акружной канферэнцыі прыняло ўдзел 155 дэлегатаў, якія былі выбраны на павятовых з'ездах. Яны падвялі вынікі дзейнасці арганізацыі за перыяд ад 1964 да 1969 года. ЗБоВіД мае вялікія дасягненні. Як прыклад можна падаць, што амаль 5 тысяч членаў гэтай арганізацыі прыняло ўдзел у сустрэчах з моладдзю, расказваючы ім пра свой шлях барацьбы.

## «МЭЛЮЗЫНА»

«Мэлюзына» — гэта аматарскі тэатр паэзіі, які дзейнічае ў Алецку. Кіруе ім Станіслаў Медзэўскі, якому чытачы «Газеты Беластоцкай» прысвоілі званне «Маладзёжнага героя Беласточчыны». За высокія мастацкія дасягненні тэатр «Мэлюзына» атрымаў узнагароду ад Цэнтральнай каардынацыйнай камісіі для спраў распаўсюджвання культуры. Пры нагодзе прыпамінаем, што ў 1967 годзе гэтую ўзнагароду заваяваў Клуб савецкай песні, які дзейнічае пры Ваяводскім праўленні Таварыства польска-савецкай дружбы ў Беластоку. (вр)




**Niedziela, 19.I.**

8.45 Program dnia. 8.50 TV Kurs Rolniczy: „Adaptacja starych budynków inwentarskich". 9.25 „Przypominamy radzimy". 9.35 PKF. 9.45 „Oblężenie" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 10.45 „Muzyka z Bratysławy". 11.20 „Psie niebo" film CSRS. 11.35 „Szlakiem zabytków". 11.55 Dziennik. 12.05 „Koncert życzeń. 12.55 Dla dzieci: Z. Poprawski — „Na ten Nowy Rok" — widowisko lalkowo-maskowe. 13.35 „Przemiany". 14.05 „Śladem Wielkiego Kuligu" („Ludzie i zdarzenia"). 14.20 „Warszawa — życie kulturalne". 15.00 Telewizyjny mecz w akrobatyce sportowej Polska — Związek Radziecki. 16.15 „My 69" — teleturniej. 17.10 „Klub Sześciu Kontynentów". 17.50 „Teatrzyk Wiecha", Scenariusz S. Grodzieńska. 18.45 „Drogi i bezdroża II Rzeczypospolitej". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Każdy może mnie zabić" — film fab. fr. (od lat 18), 21.45 Wiadomości sportowe. 21.55 Sprawozdanie filmowe z międzynarodowego turnieju koszykówki z okazji rocznicy wyzwolenia Warszawy.

**Poniedziałek, 20.I.**

15.25 Program dnia. 15.30 i 22.25 Politechnika TV Kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.30 Magazyn Sportowy. 17.50 „W Mongolii — od Ułan Bator do Ałtaju" — film pol. 18.05 „Kino Krótkich Filmów". 18.35 „Eureka". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: S. Wyspiański — „Cyd". 21.35 „Panorama Literacka". 22.05 Dziennik.

**Wtorek, 21.I.**

8.45 „W przededniu rewolucji" (Ostatnie lata emigracji Lenina 1914—1917 — Na Kanunie) — film dok. radz. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „U górników". 10.20 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. XI) Język polski — B. Brecht — „Matka Courage i jej dzieci". 11.35 Przerwa. 12.45 i 14.55 Przysposobienie Rolnicze: „Rejonizacja upraw a kontraktacja". 13.20 Przerwa. 14.50 Program dnia. 15.30 i 22.30 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 „Romuald Traugutt" — film dok. pol. 17.00 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Giełda piosenki". 20.40 „W przededniu rewolucji" (Ostatnie lata emigracji Lenina 1914—1917 — Na Kanunie) — film dok. radz. 21.45 „Próby". 22.10 Dziennik.

**Środa, 22.I.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Volty i ampery". 10.25 „Toni" — film fab. franc. 11.35 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Świat atomów i cząsteczek". 12.25 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.00 „Matematyka w szkole": „Rodzaje izometrii" cz. II. 15.30 i 22.45 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Zrób to sam". 17.00 Dla młodych widzów: „Związek Zielonego Zeszytu". 17.20 „Telekram". 17.30 „Nowiny" — Magazyn Postępu Rolniczego. 18.00 TV Kurier Warszawski. 18.15 „Sylwetki X Muzy" — Teresa Szmigielówna. 18.45 Magazyn Medyczny. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Polska pieśń ludowa". 20.35 „Światowid". 21.05 „Toni" — film fab. franc. 22.15 Dziennik. 22.30 PKF.

**Czwartek, 23.I.**

8.15 „Testament uczonego" — film fab. radz. 9.55 Dla szkół: (kl. V i VI) Język polski — „Nasz dzień powszedni". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Na dworze ostatnich Jagiellonów". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół. (kl. V) Historia — „Mieszkańcy Biskupina". 12.25 Przerwa. 12.45 i 15.55 „Mechanizacja Rolnictwa": „Orka ciągnikowa". 13.20 Przerwa. 14.50 Program dnia. 15.30 i 22.20 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.55 „Nad Rodanem" — film Tele-Aru („Z kamerą po świecie"). 18.15 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.45 „Wielcy twórcy muzyki" — Antonio Vivaldi. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Kontakty". 20.35 „Akcja — Liść Dębu" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 21.30 „Refleksje". 22.00 Dziennik.

**Piątek, 24.I.**

9.55 „Akcja — Liść Dębu" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „Zapraszamy na wieczór". 11.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Zajęcia techniczne — „Mechanizacja pracy". 13.15 Przerwa. 15.30 Program dnia. 15.35 Dla szkół: (kl. I lic.) Przysposobienie obronne — „Obrona przed bronią jądrową". 16.05 i 22.35 Politechnika TV I roku. 16.40 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: „Kino Ptyś". 17.00 Dla dzieci: „Pan Półka i spółka". 17.20 TV Kurier Mazowiecki. 17.35 „Nie tylko dla pań". 17.55 Skoki narciarskie (Szczyrk). 18.55 „Prośba do pani Wenus" — recital piosenkarsko-aktorski Marty Stebnickiej. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Czwarta zmiana". 20.40 Teatr TV: St. Przybyszewska — „Dziewięćdziesiąty trzeci". 22.10 „10 minut recenzji". 22.20 Dziennik.

**Sobota, 25.I.**

11.00 „Ziemia aniołów" — film fab. węg. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „Brazylia". 13.15 Przerwa. 15.00 Program dnia. 15.05 Program tygodnia. 15.30 Dla młodych widzów: „Konkurs „5 milionów".

**DZIEŃ TV WĘGIERSKIEJ W TVP**

16.30 Program dnia. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: „Szympans" — film TV węg. 17.25 „Balaton" — film krajozn. węg. 18.00 „Śladami przyjaźni" — o tradycjach przyjaźni polsko-węgierskiej. 18.15 „Mozaika" tv program estradowy. 18.35 „Odpowiedź" — rep. z Węgier. 18.50 „Na skraju wsi" — tańczy i śpiewa zespół „Erkel Ferens". 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.10 TV Teatr Komedii: Ferenc Karinthy — „Spóźniony gość". 21.00 „Tele-Echo". 21.45 „Ballo — concertante" — film baletowy. 22.00 Dziennik TV i Wiadomości sportowe. 22.25 „Nastolatki" — film fab. węg.




**Piątek, 17 stycznia**

8.00 Dziennik. 8.15 Dla dzieci. 8.30 „Do mnie, Muchtar!" Film fabularny. 10.00 „64 puls 100". 15.20 „Nowiny". 15.25 Program dnia. 15.30 „Mieszkańcom o obronie obywatelskiej". 15.45 „Człowiek ziemi mojej". 16.10 Ekran dla dzieci. 16.30 „Nowiny". 16.45 „Trybuna propagandysty". 17.15 „Uśmiechnij się do sąsiada". Film TV. 18.30 „Sztafeta nowin". 19.15 TV barwna. 20.15 „Płomyki białoruskie". 21.45 „Tylko fakty".

**Sobota, 18 stycznia**

7.45 Dziennik. 8.00 Program rozrywkowy. 8.30 Reportaż TV. 9.00 Ludowa artystka ZSRR S. Gijacyntowa. 10.00 „Wiedza". 10.30 „Echo stadionów". 11.00 „Szkatułka muzyczna". 11.15 „Samochód, pieszy, ulica". 11.30 „Zdrowie". 12.00 Królewna żabka". Spektakl teatru lalek. 13.45 „Problemy transportu miejskiego". 14.45 Koncert kameralny. 15.55 „Klasa robotnicza Kraju Rad". 17.00 „Przyjaciołom ekranu błękitnego". 19.00 „Świat socjalizmu". 19.30 Film fabularny. 21.05 „Śpiewa A. Wiediernikow".

**Niedziela, 19 stycznia**

8.00 „Kiosk muzyczny". 8.30 „Pisarze białoruscy". Pimien Panczenko. 9.00 Filmy animowane dla dzieci. 9.30 „Kronika życia muzycznego republiki. Rok 1936". 10.05 „Reżyserzy filmu białoruskiego". J. Szulman. 10.55 „Almanach muzyczny". 11.20 „Czas wiejski". 12.20 Dla żołnierzy. 12.50 „Bohaterowie pierwszych sztuk radzieckich". 14.20 „Wspólnym frontem przeciw kolonializmowi". 15.00 Mecz TV w akrobatyce. ZSRR — Polska. 16.15 Dziennik. 16.30 TV barwna. 19.00 „Siedem dni". 19.45 „Białoruś literacka". 20.45 „Tydzień sportowy".




(Працяг са стар. 1)

але тады... тады за прыналежнасць да ППР і ОРМО пагражала смерць. Калі ўспомніш, што перажылося, дык аж сэрца баліць. З вінтоўкай чалавек не раставаўся ў дзень і ноччу. Не вядома ж было, калі і адкуль наскочаць гэтыя «лясныя зайцы». Летам і зімой не спаў я дома. Іншыя таксама. У клуні, у хлявах або на гары хаты прыходзілася начаваць. Некалькі раз па пошце прысылалі мне смяротныя прыгаворы. Аднойчы прыйшлі асабіста. На шчасце мяне не засталі. Адлупцавалі бацьку і жонку, абабралі нас з вопраткі і ўсяго іншага...

Якая сіла прымушала людзей так рызыкаваць сваім жыццём? Таварыш Годун паясняе:

— Я ўжо з маладосці так быў настаўлены. Верыў, што гэтая новая, пасляваенная ўлада сапраўды з'яўляецца ўладай рабочых і сялян. І таму ішоў змагацца за яе.

— Як вам зараз жывецца?

— Наракаць не магу. Я атрымліваю звыш 2 з палавінай тысячы злотых месячнай зарплаты. Першай маёй так сказаць «дзяржаўнай» пасадай была пасада трэцяга члена праўлення мельніцкага ГС-у. Там, у 1950 годзе атрымоўваў я ў месяц 750 злотых. І гэта лічылася вельмі высокай зарплатай. Дык параўнайце!

А колькі дзяцей пайшло па школах! Мой хроснік, Віталіс Бонда незадоўга будзе ўжо інжынерам. Вучыцца ў Беластоку, у вышэйшай інжынерскай школе. Таксама ў Беластоку, у агульнаадукацыйным ліцэі, вучыцца мой родны сын. Двое малодшых дзяцей яшчэ ў пачатковай школе.

— Чаго б вы жадалі для сябе?

— Чаго ж я магу жадаць? Каб толькі спакой быў і здароўе, а ўсё іншае самі раздабудзем.

— ...а для сваёй вёскі?

— О, для сваёй вёскі ў мяне адно вельмі важнае пажаданне! Пад зарэз патрэбны нам новы школьны будынак! Гэты стары, у якім зараз вучацца дзеці, не толькі ўжо цесны, але і спарахнелы. Жыхары вёскі ахвотна дапамаглі б грамадскім чынам. Асветныя ўлады ў Сямяцічах абяцалі распачаць пабудову ў 1968 годзе, але штосьці ім «не выйшла». Баюся, каб яны не знайшлі нейкіх «аб'ектыўных» перашкод яшчэ ў 1969 годзе.

Я таксама гэтага баюся, бо аб патрэбе пабудовы школы ў Грабарцы давялося мне пісаць яшчэ ў 1962 годзе.

**Віктар Рудчык**

## Гаспадарчы план Беласточчыны на 1969 г.

(Працяг са стар. 1)

З гэтай сумы:

— звыш 320 мільёнаў злотых атрымаюць ПГР-ы,

— каля 300 мільёнаў злотых пойдзе на меліярацыю і то перш за ўсё на меліярацыю (дрэнаж) поля, а не сенажацяў,

— рэшта, больш-менш 250 мільёнаў злотых, пойдзе на іншыя патрэбы сельскай гаспадаркі. Між іншым за гэтыя грошы аж 132 вёскі атрымае ў 1969 годзе электрычнае святло. Гэтым чынам у Беластоцкім ваяводстве без электрычнасці астанецца няцэлых 20 працэнтаў вёсак.

Гэта сельская гаспадарка. А што ў прамысловасці? Тут, між іншым, прадбачваецца пабудову:

— цукроўні ў Лапах,

— прадпрыемства будаўлянай сталяркі ў Саколцы,

— селікатавую цагельню ў Аўгустове,

— мэблевую фабрыку ў Ломжы,

— прадпрыемства прадукцыі жалезабетонных будаўляных матэрыялаў у Беластоку,

— металаапрацоўчую фабрыку ў Бельску Падляшскім, якая будзе філіялам Беластоцкай фабрыкі жалезных прылад.

Адначасова будаўнікі будуць працягваць пабудову і разбудову пачатых раней прадпрыемстваў. Між іншым: друкарню ў Беластоку, разбудову гайнаўскіх хімічнага і дрэваапрацоўчага прадпрыемстваў, разбудову гарбарні ў Крынках.

Вось гэта некаторыя факты з гаспадарчых намераў на 1969 год для Беластоцкага ваяводства. Ажыццяўленне іх залежыць, паўтараю, ад нашай працы.

На канец варта ведаць, што бюджэт Беластоцкага ваяводства складае суму ў 3 мільярды 316 мільёнаў 290 тысяч злотых. Узрастае ён амаль на 12 працэнтаў, гэта значыць на звыш 374 мільёны злотых. На столькі ў 1969 годзе будзем мы багацейшымі.

**М. Нурэцкі**

## ПАЗЫКІ

Каб дапамагчы сялянам у пакупцы штучных угнаенняў, Ваяводскі саюз сельскагаспадарчых гурткоў у студзені 1965 года падпісаў з Ваяводскім аддзелам Цэнтральнага Саюза ашчадна-пазыкавых спулдзельняў у Беластоку ўмову, якая ўстанаўляе ўпрошчаную сістэму крэдытнага фінансавання пакупак штучных угнаенняў. Зараз кожны гаспадар можа атрымаць ад ашчадна-пазыкавай спулдзельні неабмежаваны крэдыт на пакупку штучных угнаенняў. Уся аперацыя зводзіцца да таго, што селянін квітуе заказ адпаведнай колькасці штучных угнаенняў, гэта пацвярджае адзін жырант і на гэтай падставе СОП за селяніна ўплачвае ГС-у належную колькасць грошай за штучныя ўгнаенні. Селянін звяртае пазыку пасля жніва.

На працягу трох кварталаў 1968 года на пакупку штучных угнаенняў ашчадна-пазыкавыя спулдзельні Беластоцкага ваяводства прызналі сялянам пазык на суму амаль 130 мільёнаў злотых.

(вр)




## Машынабудаванне і металаапрацоўка

Да рэвалюцыі на Беларусі не было машынабудаўнічых заводаў. За гады Савецкай улады машынабудаванне стала асновай развіцця ўсёй прамысловасці рэспублікі. У пасляваенны час створан цэлы камплекс аўтамабільных заводаў. Першы дзесятак новых машын уласнай канструкцыі сышоў з канвеера Мінскага аўтамабільнага завода ў 1947 годзе, а ўжо ў 1966 годзе рэспубліка выпрабляла 23,1 тысячы грузавых машын. Беларускі аўтазавод звышцяжкіх самазвалаў у Жодзіна, аўтамабільных агрэгатаў у Баранавічах, аўтазапчастак у Гродна, рэсорны ў Мінску, аўтазавод у Магілёве пастаўляюць народнай гаспадарцы краіны грузавыя аўтамабілі, самазвалы, аўтапаязды, аднавосевыя цягачы. Прадукцыя беларускіх аўтамабілебудаўнікоў трымае высокую марку і за мяжой. Яна паступае ў 40 краін свету. Трэба дадаць яшчэ да гэтага комплексу і Мінскі мотавеласіпедны завод, пабудаваны таксама ў пасляваенныя гады. На іх долю прыпадае каля дваццаці працэнтаў усёй валавой прадукцыі машынабудавання і металаапрацоўкі БССР.

Яшчэ большае месца ў агульнай суме валавой прадукцыі прамысловасці рэспублікі займае трактарнае і сельскагаспадарчае машынабудаванне. Колавы трактар «Беларусь» таксама добра знаёмы многім земляробам іншых краін. Першая партыя гэтых машын была выраблена Мінскім трактарным заводам у 1950 годзе. А ўжо ў жніўні 1960 года з канвеера сышла паўмільённая машына гэтай маркі. Штогод гэтае буйнейшае ў краіне прадпрыемства выпускае каля 80 тысяч трактараў. У адным плане з ім працуюць завод пускавых рухавікоў у Гомелі, маторны — у Мінску, гідраапаратуры — у Барысаве, аўтатрактарных дэталей і сельгасмашын — у Бабруйску і іншыя. Сельскагаспадарчыя машыны выпрабляе «Гомсельмаш», які быў пабудаваны ў 1930 годзе.

Паспяхова ў рэспубліцы развіваецца станкабудаванне. Цяпер налічваецца 13 такіх прадпрыемстваў. І сярод іх — буйнейшы ў краіне завод па вытворчасці аўтаматычных ліній і агрэгатных станкоў у Мінску. Аб тэмпах росту гэтай важнай галіны вытворчасці можна меркаваць хаця б па такім параўнанні. У 1945 годзе было выпушчана ў Беларусі ўсяго 200 станкоў, а ў 1966 — 25,3 тысячы. Няма ў Савецкім Саюзе такога месца, дзе б не карысталіся падшыпнікамі беларускай вытворчасці. Прадукцыя двух беларускіх падшыпнікавых заводаў па сваіх тэхнічных паказчыках дасягнула лепшых сусветных стандартаў. Значны попыт у насельніцтве рэспублікі і за яе межамі мае прадукцыя іншых беларускіх прадпрыемстваў: радыёпрыёмнікі і тэлевізары, гадзіннікі і халадзільнікі, электрычныя прыборы і газавыя пліты, піяніна і г.д.

Паявіліся зусім новыя галіны прамысловасці: радыёэлектронная, дакладнага прыборабудавання, сродкаў аўтаматызацыі і г.д. У агульнасаюзным маштабе Беларусь выпрабляе 13 працэнтаў металаапрацоўчых станкоў, 6 працэнтаў грузавых аўтамабіляў, каля 20 працэнтаў трактараў.

На здымку: разліўка сталі ў сталеліцейным цаху Мінскага аўтамабільнага завода.



# БЯДА АД ПРАЗМЕРНАГА АПТЫМІЗМУ

Аптымізм з'яўляецца станоўчай рысай чалавека. Аптымізм неабходны таму, хто думае аб лепшай будучыні і таму, хто будуе лепшую будучыню. Аптымізм з'яўляецца неадлучным элементам сацыялістычнага будаўніцтва. Творчы, здаровы аптымізм выплывае аднак з рэальнай ацэнкі сітуацыі, з рэальнага разліку перспектыў і магчымасцей, з крытычнага аналізу недахопаў, з творчага незадавальнення з існуючага стану і імкнення да яго выпраўлення і паляпшэння. Бывае аднак і так, што людзей ахоплівае толькі і выключна бескрытычны аптымізм. Цвердзяць яны тады, што ўсё кругом дасканалае: жыццё, праца, улада, а калі нешта і ёсць недасканалага, дык напэўна будзе выпраўлена некім, хто ўсё ведае і ўсё можа, некім бесканечна магутным і справядлівым. Кім у істоце ёсць гэты міфічны ЁН — «аптымісты» найчасцей дакладна не ведаюць. Цікава, што такога роду «аптымістаў» сустракаю я зазвычай там, дзе найменш падстаў да аптымізму, — у найбольш адсталых і занядбаных вёсках, там, дзе якраз ніхто нічога не робіць, і ўсе чакаюць на міфічнага Дабрачынцу.

*

Да такой занядбанай ваколіцы належыць грамада Палічная. На тэрыторыі грамады мноствы маленькіх вёсачак са слабенькай, часта не скамасаванай зямлёю. Сяляне наракаюць прытым на вельмі крыўдную для іх класіфікацыю зямлі, якая значна завышае падаткі. Грамадская рада мае клопаты з выконваннем грамадскіх абавязкаў сялянамі. Пытаю ў прэзідыуме ГРН, ці рабілі нейкія захады, каб запрасіць у грамаду камісію, якая б праверыла класіфікацыю.

— Не, — адказваюць у прэзідыуме, — мы нічога не рабілі, але сяляне самі зрабілі адпаведныя захады і выслалі, дзе трэба, заяву.

Пытаю пра гэта самае сялян.

— Мы не пісалі нічога, — адказваюць у сваю чаргу сяляне, — але прэзідыум грамадскай рады пачаў ужо ўладжваць што трэба і ў бліжэйшым часе зменяць нам класіфікацыю грунтаў.

Чакаюць сяляне, чакаюць працаўнікі ГРН. Прыроджаны аптымізм і вера ў тое, што нехта ўладзіць іх справы не дазваляюць ім — як кажуць — кіўнуць пальцам у боце для свае ўласнай і агульнай карысці.

*

Правёў аднойчы я гадзінку, а мо і дзве, з адным грамадскім дзеячам у грамадскай радзе Ласінка. Дзеяч аказаўся якраз адным з тых непапраўных «аптымістаў». Усё ў вёсцы і грамадзе было паводле яго амаль крыштальнай дасканаласцю. Мне хацелася бачыць майго размоўцу дзелавым аптымістам і таму паспрабаваў я яго запытаць пра перспектывы вёскі.

— А ці не варта, — спытаў я далікатна, — падумаць аб тым, што зрабіць, каб у вёсцы яшчэ лепш жылося?

У сувязі з тым, што размоўца мой маўчаў, я пачаў падказваць:

— Скажам, пабудаваць у вёсцы школу, даць больш сельскагаспадарчых машын, ці можа нешта іншае ў гэтым родзе.

— І зробяць! — адазваўся размоўца. — Усё зробяць, як прыдзе час!

— Хто? — запытаў я.

— Улады! Нашыя ўлады. О, нашыя ўлады цяпер усё могуць зрабіць.

І дзеяч ізноў ад пачатку пачаў хваліць нашую добрую ўладу.

*

З падобнага роду аптымізмам сустрэўся я ў зусім іншай ваколіцы, у прыгранічнай Ялоўцы. Тут таксама сустрэў размоўцу, у якога ўсё іскрылася аптымістычнымі фразамі, хаця ў сапраўднасці жыццё ў Ялоўцы не найсаладзейшае. Камплектна знішчаная вайною прыгранічная адцятая ад свету асада доўга не магла вярнуцца да

 

# КУЛЬТУРНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ ГАЙНАЎШЧЫНЫ

На V з'ездзе партыі ў справаздачы Цэнтральнага Камітэта сцвярджалася: **«Ствараючы ўсё багацейшую матэрыяльную базу для распаўсюджвання культуры — наша партыя і дзяржава павінны клапаціцца аб запэўненне высокага мастацкага і ідэйнага ўзроўню распаўсюджвання культурных каштоўнасцей».** Сцверджанне — заданне ў рэалізацыі якога кожны з нас, а асабліва дзеячы на ніве культуры, павінен знайсці сваё месца. У масавай культурнай дзейнасці, у павеце, наогул няма непасрэднага сутыкнення са стваральнікамі культуры. У павеце культурная дзейнасць у асноўным зводзіцца да папулярызацыі і распаўсюджванні культуры.

### МІНУЛАЕ

Гайнаўскі павет створана ў 1954 годзе. Да гэтага часу быў ён у адміністрацыйных рамках Бельскага павета. Ужо ў першых гадах пасля вызвалення разгортвалася тут культурная дзейнасць. Канцэнтравалася яна вакол распаўсюджвання школьніцтва, барацьбы з непісьменнасцю, камплектаванне кнігазбору для бібліятэк. Моладзь і ўзрослыя ахвотна прыступалі да аматарскіх калектываў. Колькасць іх невядомая, паколькі ніхто іх не запісваў. У матэрыялах Павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы гаворыцца: «З прычын нацыянальнай спецыфікі нашага павета ўтвараліся калектывы, якія папулярызавалі беларускую культуру, рэгіянальны фальклор». З асаблівай сімпатыяй успамінаецца тут вельмі вядомы, утвораны пасля вайны, аматарскі калектыў песні з Белавежы. Дзякуючы, між іншым, Аляксею Зіну заразаслужанаму дзеячу культуры, у Гайнаўцы створана аматарскі тэатр, які наведваў не толькі Белавежу, Нараўку, Кляшчэлі, Чаромху і Нарву, але і іншыя гарады Беласточчыны.

Іншай характэрнай з'явай было стварэнне ці пабудова грамадскім чынам святліц. У Гайнаўцы існаваў толькі адзін дом культуры «Ляснік», а ў павеце створана каля 50 святліц. Гэтыя святліцы, у асноўным будавалі іх члены ЗМП, не мелі такіх крэслаў, мэблі, не мелі кавы, аранжады, не прадаваліся газеты. Але сюды прыходзілі людзі, каб пачуць жывое слова, часта першае слова аб сацыялізме, аб будучыні, аб партыі, аб плане 3- ці 6-цігадовым.

### СУЧАСНАСЦЬ

Ішлі гады, павялічваліся фінансавыя выдаткі на культуру. У апошніх гадах да вядзення культурнай дзейнасці на Гайнаўшчыне паклікана шмат устаноў: 4 дамы культуры прафсаюзных арганізацый («Гурнік», «Ляснік», Дом настаўніка ў Гайнаўцы і «Калеяж» у Чаромсе). Перад рэалізацыяй перспектывічнага плана культуры 1966—70 г.г. т.зн. у 1965 г. існавала 9 святліц, 15 клубаў «Рух» і «Рольніка», 17 бібліятэк з 101 бібліятэчным пунктам, 8 кіно і іншыя. Агулам у павеце працавала 68 пляцовак культурна-асветнай працы і 101 бібліятэчны пункт. Трэба падкрэсліць, што ўсе дамы культуры, святліцы і клубы былі абяспечаны новаю мэбляю і іншымі прыладамі. Выдаткі рады нарадовай на гэтую дзейнасць асягнулі лічбу 1,1 мільёна зл.

У паказаных пляцоўках працавала балетнае і музычнае агніска, духавы аркестр, 3 хоры, два эстрадныя калектывы, 2 музычныя калектывы, 1 тэатр паэзіі і 17 аматарскіх драматычных калектываў.

Так разбудаваная сетка пляцовак, разнастайнасць іх працы і далейшыя патрэбы ў гэтым напрамку сталіся прычынай апрацавання пяцігадовай праграмы развіцця культуры ў 1966-70 гадах.

### БУДУЧЫНЯ

Па сутнасці будзем гаварыць аб тым, што ўжо робіцца, а не выключна аб будучыні. Грамадскім чынам пабудуюцца дамы культуры ў **Кляшчэлях, Новаберазове і Нарве,** а таксама святліца ў **Старакорніне.** Запланавана разбудову грамадскім чынам кіно ў **Чыжах** і ў **Дубічах Царкоўных.** Да 1970 года мае быць пакліканых 11 грамадскіх цэнтраў культуры (зараз дзейнічае 3).

У галіне рэгіянальнага руху гайнаўская праграма прадбачвае: **«Несці матэрыяльную і прафесіянальную дапамогу для БГКТ, якога асноўным заданнем павінна быць папулярызацыя нацыянальнага фальклору нашай тэрыторыі і распаўсюджванне культуры беларускага народа»** і **«У далейшым падтрымоўваць дзеячаў Таварыства прыяцеляў Белавежы».**

Мы паказалі свайго роду культурную міні дзейнасць. Не на тое, каб паказаць багацце развіцця культурнай дзейнасці, але каб чытач змог перадумаць, пераацаніць сябе і прыступіць да рэалізацыі. Цяпер усё залежыць у многім ад канкрэтных людзей грамадскіх «запаленцаў». Мы падкрэслівалі вытрымкі, вельмі прыемныя, аб ролі БГКТ і хацелася б, каб дзеячы таварыства на Гайнаўшчыне прынялі гэта як генеральныя напрамкі сваёй культурнай дзейнасці.

**А. Карпюк**




## *Partyzanckie wspomnienia*

Пад такім загалоўкам у выдавецтве «Пакс» выйшла ў 1968 годзе кніжка ўспамінаў маёра Станіслава Трушкоўскага («Штрэмэра»), перад вайной прафесіянальнага афіцэра артылерыі Войска Польскага, у часе нямецкай акупацыі — камандзіра батальёна АК, які дзейнічаў у ваколіцах Рудніцкай пушчы і ўваходзіў у склад Навагрудскай акругі Арміі Краёвай. Выдавецтва падкрэслівае піянерскую ролю «Партызанскіх успамінаў» маёра Трушкоўскага: «Аб збройнай барацьбе на Віленшчыне і Навагрудчыне ніхто яшчэ не пісаў. Увесь гэты абшар з'яўляецца белай плямай на бібліяграфічнай карце гэтага перыяду».

Кніжка Трушкоўскага сапраўды вартасны дакумент. Ён уносіць новыя моманты ў гісторыю партызанскай барацьбы на Беларусі. Маюць яны тым большую вартасць, што няма тут абагульненняў і «ахоплівання» падзей, якіх аўтар не быў сведкам. Трушкоўскі проста (з немалым літаратурным талентам) расказвае гісторыю свайго атрада. Здымкі і карты яшчэ больш канкрэтызуюць і ажыўляюць гэтую цікавую кніжку. (рл)

нармальнага жыцця. Гаспадарам і зараз не хапае многага да таго, каб добра весці гаспадаркі. Не хапае перш за ўсё сенажацяў і пашы для жывёлы. Апушчаныя, нікім не выкарыстаныя сенажаці ёсць у суседніх вёсках. Дзеяч з Ялоўкі верыць, што будуць яны калісьці пераказаны дбайлівым гаспадарам у Ялоўцы. Ці зроблена нешта ў гэтым напрамку? Нічога, але размоўца мой верыць у мудрасць усёведаючай і безгранічна справядлівай улады.

✲

Аптымізм «аптымістаў» бязмежны. «Аптымісты» не хочуць думаць аб тым, што дасягненні, справядлівасць і мудрасць улады з'яўляюцца сумай іх дасягненняў, іх актыўнасці, мудрасці і заангажавання — асабліва тады, калі з'яўляюцца яны дзеячамі, якія займаюць сваё месца ў грамадскіх органах улады. «Аптымісты» ўвогуле не хочуць думаць. Сваю ляноту пакрываюць яны пахваламі ў адрас ананімнай улады. Таму, хаця ў істоце з'яўляюся аптымістам, ахвотна бачыў бы ў многіх нашых дзеячаў крышачку песімізму, крытычнага позірку да ўласнай сітуацыі і ўласнай ролі ў асяроддзі і заангажавання ў яе выпраўленні.

**Ул. Паўлючук**



Шпацыр па белай «пасцелі» ў Беластоцкім парку. Фота: А. Карпюк

# МЕРАПРЫЕМСТВЫ 25-ГОДДЗЯ ПНР

На скліканай у пачатку студзеня г.г. прэсканферэнцыі пазнаёмлена журналістаў з планам рознага тыпу мерапрыемстваў прысвечаных святкаванню 25-годдзя Польскай Народнай Рэспублікі. Ніжэй падаем важнейшыя ваяводскія і агульнапольскія, інспіраваныя і рэалізаваныя ў Беластоцкім ваяводстве, мерапрыемствы:

**Ваяводскі агляд аматарскіх калектываў нацыянальных меншасцей,** які распачаўся ў лістападзе 1968 г, а яго заканчэнне адбудзецца ў маі 1969 г. Гэта першы агляд такога роду і прадбачваецца яго прадаўжаць. Прысвечаны ён папулярызацыі мастацкіх дасягненняў беларускага, літоўскага, украінскага і рускага фальклору.

Адным з найважнейшых будзе **I Агульнапольскі фестываль — «Паэзія і Музыка».** Пратэктарат над фестывалем прыняў **міністр культуры і мастацтва Л. Матыка,** а ў склад ганаровага Камітэта м. інш. увайшлі **I сакратар ВК ПАРП А. Лашэвіч і старшыня Прэзідыума ВРН С. Жмійка.** Урачыстае адкрыццё фестываля адбудзецца 9 лютага, а заканчэнне — 16 лютага г.г. У фестывалі прыймуць удзел відныя польскія прафесіянальныя мастакі.

У жніўні 1969 г. — **V Белавежскі пленер** — мерапрыемства не толькі агульнапольскае, але і міжнароднае. Іншага роду мерапрыемствам з гэтай галіны будзе **рэтраспектыўная акруговая выстаўка жывапісу і разьбы «Беластоцкая скульптура ў 25-годдзі ПНР».**

У галіне бібліятэкарства будзе арганізавана ў бібліятэчных філіялах выстаўка кніжак п.з. **«25 год польскай кніжкі ў службе грамадства».** Будуць арганізаваны таксама два чытальніцкія конкурсы: **«Польскі рабочы рух у барацьбе за лепшае заўтра»** ад 1.IX.68 г. да 30.III.69 г. і **спаборніцтва за найлепшы бібліятэчны пункт у ваяводстве** ад 1.X.68 г. да 30.III.1970 г. Мэтай апошняга конкурсу з'яўляецца павелічэнне актыўнасці вясковага чытача. Трэба дадаць, што спаборніцтва бібліятэк праводзіцца ў рамках агульнакраёвага спаборніцтва святліц, клубаў, дамоў культуры і бібліятэк пад загалоўкам **«Кожны дзень служым Народнай Айчыне».**

З агульнакраёвых мерапрыемстваў на асаблівую ўвагу заслугоўвае **«Туркус» (турызм, культура, спорт).** Мерапрыемства будзе працягвацца ад ліпеня 1969 да мая 1970 г. і будзе складацца з 5 мерапрыемстваў. Адбудзецца **Фестываль маладзёжнай музыкі.** У ліпені г.г. у Беластоку, Вроцлаве, Кельцах і Быдгашчы адбудзецца т. зв. занальны турнір найлепшых калектываў музычна-вакальнага маладзёжнага руху.

Прадбачваецца, што ў час святкаванняў 25-годдзя ПНР выйдзе шмат цікавай і каштоўнай літаратуры аб Беласточчыне. Між іншым, выдавецтва Беластоцкага навуковага таварыства выдасць: **Г. Маецкага — «Паўстанне народнай улады на Беласточчыне», «Матэрыялы да гісторыі Сэйненскай зямлі»** том II і **«Эканамічныя студыя і матэрыялы»** з аб'ёму гаспадаркі Беласточчыны ў 25-годдзі ПНР. Акруговы музей выдасць як **дадатак да X тому «Беластоцкага гадавіка» — бібліяграфію Беластоцкага рэгіёну. «Фрэскі з Супраслі»** — гэта альбом, якога выдаўцай з'яўляецца ваяводскі кансерватар. Апрача таго будзе выданы: інфарматар музея Сувальскай зямлі і каталог пастаяннай археалагічнай экспазіцыі — **Прагісторыя Беласточчыны.**

Аб некаторых мерапрыемствах будзем інфармаваць больш падрабязна ў наступных нумарах «Нівы». (ак)




**Іра з Гайнаўшчыны:** «Маю 23 гады. Закончыла 8 клас і СПР. У другім класе СПР навучылася шыць, але мяне гэта не задавальняе. Я хацела б дзе-небудзь працаваць і вучыцца. Можа ёсць якія-небудзь курсы ў Беластоку ці ў Гайнаўцы, пасля якіх можна атрымаць працу».

**Адказ:** Ваша пісьмо мала канкрэтнае, і таму мне цяжка канкрэтна раіць Вам. Магу агульна толькі накіраваць Вашыя думкі.

Факт, што Вы навучыліся шыць будучы ў СПР не дае ніякіх прафесіянальных правоў. Справа ў тым, што СПР рыхтуе адукаваных гаспадароў-прафесіяналаў, і курс шыцця ўведзены на тое, каб выпускніца СПР умела сабе, хатнім спосабам, пашыць патрэбныя рэчы для сям'і. Другое пытанне датычыць курсаў і працы. На колькі мне вядома, зараз спецыяльных курсаў, якія б рыхтавалі да працы, няма. Маладым людзям створана магчымасці завочнай ці карэспандэнцыйнай вучобы ў рознага тыпу прафесіянальных школах. Сучасная гаспадарка патрабуе высокаадукаваных спецыялістаў, а курсы гэтага не даюць. Асабіста раю перагледзець спісак школ і паступіць завочна вучыцца найлепш у сельскагаспадарчы тэхнікум, таму што Вас, як выпускніцу СПР, прыймуць у **трохгадовы тэхнікум.** Можна таксама звярнуцца ў Павятовае праўленне ЗМВ у Гайнаўцы, дзе Вас паінфармуюць аб гуфцах працы ОГП, дзе таксама можна працаваць і здабываць прафесію. Калі зацікавіць Вас якая-небудзь канкрэтная прафесія, тады прышліце свае прапановы, а я змагу падаць Вам адрасы тэхнікумаў ці прафесіянальных (засадніча) школ.

**Лёнка П.** з Беластока: Як навучыцца іграць на музычным інструменце? — пытае мяне. Хачу паведаміць цябе і ўсіх зацікаўленых, што трэба дакладна сачыць «Ніву», а ў канцы студзеня або ў пачатку лютага будзе на гэтую тэму шырэйшая публікацыя, дзе раіць будзе старшыня Беластоцкага музычнага таварыства.

**Дарадчык**



 

# СТАРАЖЫТНЫЯ КАНЬКІ



Прыстасаванні да катання на лёдзе былі вядомы чалавеку некалькі тысячагоддзяў назад. Старажытныя канькі, якія знаходзяць археолагі ў час раскопак, рабіліся з костак ног каня ці быка. Гэтыя косткі знаходзяцца каля капытоў і завуцца плюсневымі. На працягу вякоў форма канькоў не змянілася. Менавіта такімі канькамі карысталіся жыхары Русі 800—900 гадоў назад.

Пры раскопках на Верхнім замку ў Полацку на глыбіні ў 2,5 метра, дзе адклаліся наслаенні XIII стагоддзя, у рукі даследчыкаў трапіла пара канькоў (на здымку). Яны зроблены з плюсневых костак быка. Даўжыня канькоў 20 сантыметраў. Выходзіць «спартсмену», які імі карыстаўся, было прыкладна 8—9 гадоў.

Знойдзеныя канькі нагадваюць касцяныя палазы, якія спераду крыху закруглены. Ніжняя коўзкая паверхня полаза даволі шырокая. Уздоўж яе праходзіць паз, як у сучасных лыжах. Пазы не рабілі спецыяльна: іх утварыла сухажылле жывёлы. Доўга катаўся на сваіх каньках маленькі палачанін. Коўзкая паверхня канькоў і цяпер ззяе, як адпаліраваная.

Супрацьлеглы верхні бок даволі тоўстага полаза выконваў ролю пляцоўкі для нагі. Прывязваліся канькі вяроўкай ці вузкім раменьчыкам. У заднім канцы, каля самай пяткі, наўскасяк праходзіла прыродная адтуліна. Прасунуць у яе вяроўку было не цяжка. Складаней было прымацаваць пярэднюю частку канька. Для гэтага выкарыстоўвалася таксама прыродная адтуліна, але яна была адкрыта з аднаго боку.

Цікава адзначыць, што ў Нарвегіі і Ісландыі касцяныя канькі ўжываліся яшчэ зусім нядаўна — у канцы мінулага стагоддзя.

**Г. Штыхаў**
**кандыдат гістарычных навук**




**Плямы на шафе**

Калі перад самым прыходам гасцей вы заўважыце на шкле кніжнай шафы, буфета або каля ручкі дзвярэй плямы і ў вас няма часу памыць яго, вытрыце іх ваткай, змочанай спіртам або адэкалонам. Плямы зараз жа здымуцца, шкло робіцца чыстым.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# Нарадзіны „Чорнай пантэры“

Насілле, якое працягваецца дастаткова доўга, нараджае насілле. Нейкі Ньютан, адзін з кіраўнікоў «Чорнай пантэры» — арганізацыі амерыканскіх неграў — сказаў:

«...Пантэра зазвычай ніколі не атакуе першай, але атакаваная ды загнаная — кідаецца на нападаючага з ашалелай энергіяй».

«Чорная пантэра» ўзнікла ў апошняе двухгоддзе гвалтаў і паніжэнняў, якія церпіць негрыцянскае насельніцтва багатай Амерыкі (ЗША). Гэта арганізацыя, якая ставіць сваёй мэтай барацьбу за роўныя правы амерыканскім неграм. Нядаўна «Чорная пантэра» наладзіла трыумфальны рэйд па негрыцянскіх гетах Амерыкі двум чорным медалістам мексіканскай Алімпіяды: Джону Карласу і Томі Сміту.

Часы стыхійных, роспачных негрыцянскіх выступленняў, падстаўлянне грудзей і галавы пад кулі ды палкі паліцыі, і іхніх расісцкіх баявікоў, мінаюць беспаваротна. Тыя часы ўжо належаць гісторыі. «Чорная пантэра» з'яўляецца арганізаванай партыяй, якая ў штораз большай ступені кіруецца прадуманай тактыкай, вызначаючы сабе стратэгічныя мэты: **усялякімі даступнымі сродкамі давесці да раўнавагі сіл у розыгрышы з амерыканскім расізмам.**

Ячэйкі «Чорнай пантэры» хутка множацца ва ўсіх штатах. Кіраўнік «Пантэры» Бобі Сыл тлумачыць гэта наступнымі прычынамі:

«...расісцкі апарат улады намагаюцца гвалтоўным чынам элімінаваць нас з ігры. Паліцыя праследуе нас, забівае, замыкае ў турмах — і гэта многім людзям адкрывае вочы на дарогу, па якой ідзе краіна. (...) Паліцыянты жывуць у прыгарадах для белых, вакол негрыцянскіх гетаў. У восем гадзін раніцы сядаюць яны ў машыны і едуць на вуліцы нашых чорных кварталаў. Баяцца, і таму не адымаюць рук ад сваіх карабінаў і пісталетаў. Дзейнічаюць яны літаральна так, як акупацыйныя сілы. Гэту сілу, сілу іх карабінаў трэба ім адабраць і перадаць масам. Жыхары чорных гетаў павінны самі выбіраць людзей, якія створаць паліцыйныя сілы. (...) Лічым, што паліцыянт, выбраны насельніцтвам, пражываючы разам з усімі ў тых самых умовах, на той самай вуліцы — будзе адчуваць сябе адказным перад сваімі аднапляменнымі братамі за правідловае ўжыванне той сілы. Будзе гэта крок па дарозе да ліквідацыі каланіяльных суадносін у гэтай краіне».

Адной з папулярных форм дзейнасці «Чорнай пантэры», гэта ўзброеныя патрулі на вуліцах амерыканскіх гарадоў, якія трымаюцца найчасцей паблізу патрулёў амерыканскай паліцыі. Апрача ўзбраення кожны патруль «Пантэры» мае збор законаў, абавязваючых у Злучаных Штатах. У выпадку, калі паліцэйскі патруль затрымлівае негра, зараз жа з'яўляецца патруль «Чорнай пантэры» (на матацыкле), і калі паліцыянты вядуць сябе нязгодна з законамі, патруль «Пантэры» неадкладна наладжвае інтэрвенцыю. Паліцыя, у адказ на такую дзейнасць, спрабавала бандыцкіх нападаў на кіруючых функцыянераў «Чорнай пантэры». Адбываюцца арышты з выразна выдуманай матывацыяй. Бобі Сыл жыве ў доме паблізу галоўнага штаба «Чорнай пантэры». Яго кватэру дзень і ноч ахоўваюць спецыяльныя партыйныя варты.

(а-ся)



**Амерыканскія негры Томі Сміт (злева) і Джон Карлас пераможцы алімпіяды ў Мехіка ў бегу на 200 метраў на ганаровым п'едэстале. Калі ў іх гонар падняўся флаг ЗША, спартсмены схілілі галовы і паднялі ўверх руку ў чорнай пальчатцы. Іх мужны жэст пратэсту супроць расізму ў ЗША сустрэў падтрымку ўсяго свету. Але кіраўнікі амерыканскіх алімпійцаў выкінулі Сміта і Карласа з каманды.**

## КУЛІНАРЫЯ

**Бараніна з часнаком**

Мяса ачысціць ад лішняга тлушчу, каб страва не была вельмі цяжкая. Нарэзанае сала растапіць на патэльні, дадаць дробна нарэзаную цыбулю, а затым бараніну, абмазаную часнаком, расцёртым з соллю. Спачатку тушыць на пліце, пакрыху падліваючы вады, а потым паставіць у духоўку і пячы да залацістага колеру. Бараніну трэба падаваць гарачай, таму што лой хутка застыне, мяса і соус становяцца нясмачнымі. У якасці гарніра падаецца бульба.

На 1 кг бараніны (ад задняй або спінна-лапатачнай часткі) — 80 г. сала, 5 зубкоў часнаку, соль, 1 галоўку цыбулі.

**Грыбы**

Калі марынаваныя грыбы выкарыстоўваюць для соусу, то іх не трэба доўга варыць, бо яны робяцца цвёрдыя.

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

**Пітон-гігант**

Сяляне з жывёлагадоўчай фермы ў Адыдоме (Гана) выявілі прапажу дзвюх кароў. Неўзабаве яны знайшлі адну карову, якая, паводле ўсіх прыкмет, была забіта пітонам. Далейшыя пошукі прывялі сялян да невялікай сажалкі, дзе яны ўбачылі дзесяціметровага пітона са страшэнна развітым страўнікам. Калі пітона забілі і разрэзалі страўнік, там была выяўлена праглынутая цалкам карова.

## ТЭХНІКА

**Фарба пакажа няспраўнасць**

Хто хоць крыху знаёмы з сакрэтамі радыётэхнікі, той ведае, колькі часам трэба пакутлівых пошукаў, каб знайсці няспраўнасць, скажам, у радыёпрыёмніку. Тут часта становяцца ў тупік нават вопытныя спецыялісты, узброеныя дакладнымі прыборамі.

На дапамогу радыётэхнікам прыйшла хімія. Савецкія вынаходнікі С. Берас-лаўскі і В. Тарчанкова прыдумалі асобую фарбу, якая мяняе свой колер пад уздзеяннем небяспечнага для той ці іншай дэталі нагрэву. Яе можна нанесці на трансфарматары, кандэнсатары, супраціўленні і іншыя дэталі, якія пры пераграванні выходзяць са строю. А каб не заблытацца ў вялікай палітры колераў розных дэталей, побач з тэрмаіндыкатарнай фарбай наносяць мазок звычайнай фарбы таго ж колеру, што і індыкатарная. Такім чынам, калі абедзве фарбы на дэталі маюць аднолькавы колер, значыць дэталь спраўная. Калі ж індыкатарная фарба змянілася, то адразу відаць, якая дэталь вышла са строю.

Навінка абяцае спрасціць і значна паскорыць рамонт радыёапаратуры.

## Чэрць стагоддзя назад

# СУСТРЭЧА З ГЕСТАПАЎЦАМ



На другі дзень ва ўмоўленай гадзіне высеў я з саняў ля ціхага будынка гімназіі імя Тадэуша Касцюшкі. Выйшаўшы на вуліцу Міцкевіча, павярнуў я ў напрамку чыгуначнай станцыі. Насупраць ішлі двое мужчын. Здалёк пазнаў я Данілу Барташука і Сашку Баравоя.

«Ёсць і ахова» — падумаў я.

Мінуліся, бы незнаёмыя. Толькі вуглом вока прыкмеціў, як Барташук падмаргнуў мне. Ішоў я далей, зраўняўся з панадворкам. углыбіні якога стаяў маленькі домік Косці. У акне стаяў вазон герані. Не спыняючыся, пайшоў я далей. Перад чыгункай спыніўся ля нейкай вітрыны, непрыкметна азірнуўся. На вуліцы было спакойна, нічога не відаць падазронага. Далёка, не спяшаючыся, вярталіся Барташук і Баравой. Вярнуўся я і ўвайшоў на панадворак Косці.

Віт з Косцем сядзелі за сталом. Віт чытаў нямецкую газету.

— Добры дзень, — прывітаўся я.

— Добры дзень, — адказаў Косця. — Заходзь, распранайся.

— Дзякую, я толькі на хвілінку. Бацька прасіў перадаць, што бульбу прывязе ў чацвер. Раней не меў часу. Не купляйце на рынку, прывязе напэўна.

— А крыху масла не знойдзецца? Купіў бы я кілаграмчык.

— Масла няма, аддаем на кантыгент.

— Гавары смела, не бойся, свае, ніхто не выдасць, — Косця кіўнуў галавою ў бок Віта.

— У нас няма напэўна, — адказаў я, — але можна будзе спытацца ў суседзяў, мо ў каго і ёсць?

— Ды ты распранайся, замёрз! Пачастую цябе кілішкам гарэлкі... Гэта, пане Віт, хлапец з Аўгустова, сын майго знаёмага. Вельмі парадачныя людзі, забяспечваюся харчамі ў іх, прадаюць танней, чым на рынку. Знаёмцеся.

Я зняў куртку, прывітаўся з Вітам, сеў на свабодным крэсле.

Віт быў у цывільным, меў звыш пяцідзесяці год, нізкага росту, каржакаваты, густыя, сівыя валасы, арліны нос, буйныя бровы, з-пад якіх глядзелі невялікія, свідруючыя вочы.

Косця паставіў на стол паўлітра гарэлкі. Замест кілішкаў, падаў шклянкі, кавалак сала, хлеб.

— Выбачайце за скромную закуску. Жонка выехала ў Беласток. Каб была, зрабіла б лепш.

— Такое сала з марозу — найлепшая закуска, — сказаў Віт. — Люблю з чорным хлебам.

— Выбачайце, не ведаў, — сказаў гаспадар. — Чорны хлеб? Ужо нясу.

Косця з Вітам выпілі па паўшклянкі моцнай самагонкі, я выпіў глыток. Потым выпілі па другой чарзе. Твар Віта зарумяніўся. За акном мільганула постаць у нямецкім мундзіры, мурашкі папаўзлі па маіх плечах.

«Ці ж бы пастка?» — падумаў я. Рука абсунулася да кішэні нагавіц, дзе быў пісталет. Глянуў я пытальна на Косцю.

— Ідзе шуцпаліцай Матушэўскі, — сказаў Косця — Які чорт яго тут нясе?

Устаў і выйшаў у кухню. Дзверы ў пакой вялі праз кухню. Нешта сказаў Матушэўскаму і той пайшоў назад. Калі Косця назваў прозвішча шуцпаліцая, я адчуў палёгку: Матушэўскі быў жа звербаваны Косцем да супрацоўніцтва.

За сталом гутарка ішла навокал падзей на фронце. Віт выказваўся даволі свабодна, самагонка развязала яму язык.

— Усё падаюць паведамленні аб скарочванні і выпростоўванні лініі фронту, — гаварыў ён. — Чэрці б іх узялі! Як так далей пойдзе, на весну бальшавікі будуць тут. Усё скончана. Гітлер капут, пане Косця! А нам што? Таксама капут. Каб хоць была са мною сям'я, уцёк бы ў райх. Пане Косця, вы ведаеце найлепш: быў я парадачным чалавекам, нікога не забіў, не ўдарыў нават. Я настаўнік, педагог. Усё, што робіць гестапа, працівіць мяне. То гэты кат Шрэдар, мой шэф, усяму вінаваты. Гэта пачвара, а не чалавек.

— Забудзем аб тэтым, пане Віт, лепш давайце вып'ем, — спыніў яго Косця, наліваючы ў шклянкі. — Самагонка гарачанькая, такая цеплыня разыходзіцца па ўсім целе.

— Добра вам так гаварыць, — не здаваўся Віт. — Вам нічога не пагражае. Вы будзеце задаволены, як прыдуць бальшавікі. Вы чакаеце іх. Я гэта ведаю. Вы мяне ненавідзіце. Вы ўсе нас ненавідзіце... Што са мною зрабілі? Я да вайны брыдзіўся яе, у рот не браў, а сёння?..

Гутарка набыла небяспечны кірунак. Трэба было ўлятучвацца. Тым больш, што ў мяне ўжо склалася ўражанне аб гестапаўцу. Дык я ўстаў.

# ТРЫБУНА чытачоў

## WIELKI PAMIĘTNIKARSKI KONKURS CZKR, „PLONU“ I PAM

**Na zbliżające się 25-lecie Polski Ludowej redakcja „Plon”, Centralny Związek Kółek Rolniczych i PWRiL — przy współpracy Komisji Pamiętnikarskiej Polskiej Akademii Nauk ogłaszają wielki konkurs dla członków i działaczy kółek rolniczych na pamiętnik pt. „MOJA DZIAŁALNOŚĆ W KÓŁKACH ROLNICZYCH”.**

**Ogrom przemian dokonanych na naszej wsi i wielki postęp w produkcji rolnej w dużej mierze powstał dzięki działalności kółek rolniczych i kół gospodyń wiejskich. Niech więc ten wielki dorobek utrwali się w pamiętnikach tych wszystkich, którzy pokonując najróżniejsze przeciwności budowali lepsze jutro wsi.**

**Zwracamy się więc do Was członkowie, pracownicy i działacze kółek rolniczych i kół gospodyń wiejskich opiszcie o całej swojej kółkowej działalności, o swoich osiągnięciach, jak również o niepowodzeniach, przedstawcie, jaką rolę odegrało kółko rolnicze w życiu Waszej wsi, w rozwoju produkcji rolnej, w szerzeniu postępu na wsi i w walce z zacofaniem. Nie kryjcie żadnych swoich przeżyć — złych lub przyjemnych — a opiszcie je dokładnie i szczerze. Redakcja gwarantuje pełną tajność Waszego nazwiska, a w razie publikacji nie będą podawane wymienione przez Was nazwiska, miejscowości, a ujawniony będzie tylko numer pamiętnika.**

**Piszcie więc prosto i szczerze, bez silenia się na upiększanie swojego pisania, starajcie się pisać wyraźnie, czytelnie i zwięźle, choć nie ograniczamy ilości stron.**

**Najlepsze pamiętniki zostaną nagrodzone. A oto nagrody:**

| | |
|---|---|
| I nagroda | — 7 000 zł |
| II nagroda | — 5 000 zł |
| dwie III nagrody po | — 3 000 zł |
| dziesięć wyróżnień po | — 1 000 zł |

**oraz co najmniej 100 nagród rzeczowych w postaci różnych, wartościowych przedmiotów.**

**Termin nadsyłania prac do 31 marca 1969 roku, na adres: Redakcja „Plon’ — Warszawa, al. Jerozolimskie 28, skr. poczt. 374. Pamiętnik podpisać trzeba godłem, a do pamiętnika dołączyć zaklejoną kopertę z imieniem i nazwiskiem oraz dokładnym adresem. Na wierzchu kopertę opatrzcie tym samym godłem, którym podpisany został pamiętnik.**

**Bliższe szczegóły o tym konkursie zamieszczone były w tygodniku „Plon” z miesiąca grudnia i stycznia.**

## І ЗНОЎ АБ ПКС-Е

28 снежня 1968 г. у 9 гадзін у аўтобус ПКС у Дубінах хацела ўвайсці старэнькая жанчына, але шафёр яе не ўзяў, хаця было тут многа месца і хаця старушка паказвала паперку, што яе выклікае ў Гайнаўку нейкая там установа.

Мяне гэта ўсхвалявала і я стаў заступацца за жанчынай, даказваючы, што ў Гайнаўку з Дубін недалёка, шафёр не павінен пакідаць старушку. Мая інтэрвенцыя не памагла, а бяздушны шафёр, трымаючыся сваіх нечалавечых доказаў, запусціў матор і паехаў.

Мне выдаецца, што ўлады ПКС-у не праводзяць гутарак з шафёрамі адносна культурнага абслугоўвання насельніцтва, не павучаюць іх, і таму некаторыя шафёры такія бяздушны.

**М. Лук'янюк**
**Белкі**

## ДЗЯКУЮЧЫ ПІСЬМАНОСЦАМ

У раёне пошты Дубічы Царкоўныя зараз ёсць 165 падпісчыкаў «Нівы». Ніводзін часопіс не мае столькі чытачоў. Ды «Нівы» яшчэ ніколі столькі экземпляраў не прыходзіла ў дубіцкую пошту. Да павелічэння падпісчыкаў прычыніліся тут пісьманосцы.

**(мм)**

---

— Прашу прабачэння, — сказаў я. — Сардэчна дзякую за пачастунак, мне ўжо трэба ісці: я прыехаў санкамі з суседам, чакае на рынку. Да паліцыйнай гадзіны мы павінны вярнуцца дамоў.

— Што?! — гукнуў Віт. — Вы баіцеся гэтых дурных ёлапаў — жандараў?

Вынуў з кішэні тоўсты блакнот, вечнае пяро. На старонках блакнота ў верхнім левым рагу быў фірмавы штамп бельскага гестапа.

— Ваша прозвішча? — спытаўся.

— Вальдэмар Вронскі.

На картцы напісаў на нямецкай мове, што Вронскі надзейны і карысны чалавек і хай яго жандармерыя не затрымлівае і не робіць яму клопатаў. Пад зместам злажыў размашысты подпіс.

— Вазьміце! — падаў мне. — Важнае разам з аўсвайсам. Ніякі жандар не затрымае вас ва ўсім бельскім крайскамісарыяце, калі пакажаце гэтую картку. Ведаюць мяне.

— Вялікае дзякуй! — сказаў я. — Не ведаю, як вам адудзячыцца? Папрашу маму, каб зрабіла вам масла. Перадам праз пана Косцю.

— Добра, добра! — мармытнуў.

Развітаўшыся, выйшаў я з хаты.

«Пачакай, вар'ят, будзе табе гэта нямала каштаваць» — думаў я аб гестапаўцу.

**Ян Анацік**

## ХВЯДОРЧЫНА ГОРА...

...так у Плёсках называюць 80-гадовую старушку Хвядору Раманюк, якая не мае дзяцей ні блізкіх. Жыве яна ў канцы вёскі ў маленькай старэнькай хатцы. Мае карову, авечкі і некалькі свіней. Жывёла ў яе недагледзеная. Збожжа і сена на панадворку пад голым небам. Зямлю апрацоўвае пры дапамозе жыхараў вёскі. Надыйшла зіма. Для гэтай жанчыны найгоршая пара года. У яе няма чым напаліць у печы. Ёю ніхто не апякуецца. А ў нашай мясцовасці ёсць грамадскія апекуны, якім паверaны вось такія справы. На жаль, грамадскі апякун неяк не заўважае гора Хвядоры Раманюк.

**Янка**
**Плёскі**

## ДЗЕ ПРАДАЦЬ ЯЙКІ?

У Белках крама ўжо больш месяца закрыта. І вось тры жанчыны з Белак павезлі прадаваць яйкі ў суседнюю вёску Агароднікі. Там зноў прадаўшчыца не прыняла яек даказваючы, што ў краме вельмі холадна і таму цяпер яна не скупляе яек, бо яны памёрзнуць. Тады тэтыя жанчыны паехалі ў Сацы. У Сацах прадаўшчык не прыняў яек, таму што не меў скрынак на яйкі.

— Магчыма што гэта ў Тайнаўскім павеце вясковы гандаль не дастасаваны да патрэб сялян — падумалі жанчыны і накіраваліся з яйкамі ў вёску Давідавічы, што ў Бельскім павеце. На жаль, і там яек не прадалі. Вось якая бесталковасць з прыёмам яек у вясковых крамах.

**Ярош**
**Гайнаўскі павет**

## НАЙЛЕПШ У КЛЯШЧЭЛЯХ

У пабудове школ на Гайнаўшчыне першае месца займае ГРН Кляшчэлі. Там ад нядаўна разбудавана школьнае памяшканне. Узбагацілася яно на 5 пакояў — класаў. Па чатыры пакоі-класы дабудавана ў вёсках Сакі і Дашы. Варта ўспомніць, што ўсюды, ва ўспомненых вышэй вёсках, палову коштаў пабудовы склалі грамадскія чыны саміх жыхароў. Арганізатарам грамадскіх чынаў у гэтай грамадзе з'яўляецца старшыня кляшчэлеўскай ГРН Яўгень Ефімюк.

**Ц. Я.**
Кляшчэлі

---

## Сардэчныя ТАЙНЫ

**Дарагое Сэрцайка!**

Мне 16 год. Людзі гавораць, што я прыгожая, а нават што вельмі прыгожая. Я таксама ветлівая, мо і таму яшчэ мяне ўсе любяць. Аднак маю іншы клопат, а менавіта клопат са сваёй фігурай. Я вельмі многа затоўстая, як на свае гады. З тае прычыны вельмі перажываю. Нават на забавы хаджу рэдка, бо мне здаецца, што ўсе толькі і глядзяць на маю паўнату. Часамі начамі плачу і жалюся на сваё няшчасце.

Парай, дарагое Сэрцайка, што зрабіць, каб схуднуць і зрабіцца зграбнейшай. За параду буду вельмі ўдзячна.

**Люся**
**з Беластоцкага павета**

**Мілая Люся!** Не трэба аж так перажываць і лічыць, што ты ўжо такая нешчаслівая. Падумай, колькі ёсць маладых дзяўчат і хлопцаў калекамі, гэта сапраўды нешчаслівыя людзі. Ты думаеш, што так многа дзяўчат зграбных. Не. Трэба толькі ўмець апранацца, каб выглядаць зграбна. І тым тоўстым і тым худым. А ў сваю чаргу раю табе звярнуцца да лекара-інтэрністы, які дакладна выслухае цябе і скажа, што з'яўляецца прычынай тваёй паўнаты і дасць адпаведнае лячэнне. Без парады лекара не можна прымяняць ніякага лячэння, бо гэта можа зашкодзіць здароўю.

**Жадаю поспехаў і добрых вынікаў**

**Сэрцайка**

## ЗА СУПОЛЬНУЮ ДЗЕЙНАСЦЬ БГКТ, ЗМВ, ЛьЗС

У нашай вёсцы Крывяцічы існуе тры арганізацыі, якіх членамі з'яўляецца моладзь. І так, да БГКТ і ЛьЗС належаць у асноўным хлопцы, а да ЗМВ у асноўным дзяўчаты. Усе гэтыя тры арганізацыі не былі актыўныя. А калі і нешта рабілі, дык кожная аддзельна, у той час калі можна было ўсім быць разам, усім быць лепш згуртаваным.

Нядаўна ў Крывяцічы прыехаў прадстаўнік з Павятовага праўлення Саюза сялянскай моладзі (ЗМВ) з Бельска. У святліцы сабралася ўся моладзь і многа старэйшых. Прадстаўнік гаварыў аб ЗМВ, аб яго дзейнасці, падкрэсліваў вялікую ролю гэтай арганізацыі. А зноў хлопцы з Крывяціч гаварылі аб патрэбе добрай дзейнасці ў вёсцы не толькі ЗМВ, але ўсіх трох арганізацый і прапанавалі нават выбраць адно супольнае праўленне і тады паводле іх была б большая аб'яднанасць моладзі. Яна супольна, не раздзяляючыся на тры групы, лепш магла б весці культурна-асветную і спартыўную дзейнасць. Але вось такое супольнае праўленне прадстаўнік павятовага праўлення не падтрымліваў. Тады па прапанове Янкі Кірыдзюка моладзь выбрала супольную арганізацыйную рэвізійную камісію, якая выконваць будзе ролю каардынатара працы ўспомненых трох арганізацый і якая аб'ядноўваць будзе ўсю моладзь у адзін згуртаваны калектыў. На старшыню гэтай камісіі моладзь пры актыўнай падтрымцы старэйшых выбрала Ваню Кірыдзюка, старшыню гуртка БГКТ, сакратаром — Веру Суліму — прадстаўніка ЗМВ, а таксама Васю Каноплю — прадстаўніка ЛьЗС. І так, у Крывяцічах ад новага года пачала працу гэтая агульнаарганізацыйная рэвізійная камісія, якая нарадзілася з ініцыятывы моладзі. І напэўна выйдзе гэта на карысць усім тром арганізацыям. Першай справай да ўладжання з'яўляецца выкарыстанне да максімума святліцы, каб у ёй заўсёды праводзілася нешта цікавае, каб яна стала сапраўдным цэнтрам культуры нашай вёскі.

**В. Кірыдзюк**
**Крывяцічы**

## ЧЫТАЛЬНЯ

У Дубічах Царкоўных нядаўна заснавана чытальню. Месціцца яна ў будынку колішняга клуба «Рух», які распаўся. Па ініцыятыве мясцовага прэзідыума ГРН перанесена сюды кніжкі бібліятэкі, якая знаходзілася побач у цесным памяшканні. Цяпер у прасторнай бібліятэцы ёсць многа месца, каб пачытаць кніжкі ці газеты. Кіраўніком бібліятэкі-чытальні з'яўляецца маладая дзяўчына з суседняй вёскі Грабавец — Насця Тафілюк.

**М. Панфілюк**
**Дубічы Царкоўныя**

## ПАПУЛЯРНА-НАВУКОВАЯ СЕСІЯ

Нядаўна Гайнаўскі беларускі ліцэй арганізаваў папулярна- навуковую сесію прысвечаную 20-ай гадавіне аб'яднання рабочага руху ў Польшчы. Пры дапамозе дырэктара ліцэя Аляксандра Іванюка і настаўніка Янкі Петручака ліцэісты адзінаццатага класа падрыхтавалі вялікія цікавыя змястоўныя даклады. І так, Марыся Кур'яновіч чытала даклад «Нараджэнне рабочага класа і марксізма ў Заходняй Еўропе і Расіі».

Яраслаў Карольчук выступаў з дакладам «Камуністычная партыя Польшчы ў барацьбе за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне».

Рыгор Шыманюк падрыхтаваў даклад на тэму «Дзейнасць Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі» (як секцыі КПП) на Беласточчыне, Леанід Лясота, аб «Значэнні дэкларацыі Польскай рабочай партыі пад загалоўкам «За што змагаемся», а Мікалай Кардэлевіч — «Польская аб'яднаная рабочая партыя як прадаўжальнік рэвалюцыйных традыцыі КПП і ППР».

Усе даклады былі на высокім узроўні.

У сесіі, якая праводзілася ў кіно «Гурнік», узялі ўдзел усе вучні і настаўнікі ліцэя, а таксама запрошаныя госці.

Пасля дакладаў адбылася мастацкая частка, у якой ўдзельнічалі ліцэісты.

**С.М.**
Гайнаўка

## НАВАГОДНІ БАЛЬ

Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў навагодні баль у памяшканні Галоўнага праўлення. На балі прысутнічала каля 200 чалавек — членаў БГКТ горада Беластока. Урачыстасць праводаў старога года і сустрэчы новага 1969 года працягвалася аж да раніцы.

С. С.
**Беласток**

## ЗАДАННІ НА 1969 ГОД

Ужо ў чэрвені 1968 года сельскагаспадарчыя **гурткі супольна з мясцовымі** аграномамі і грамадскімі дзеячамі апрацавалі вясковыя планы развіцця сельскай гаспадаркі ў 1968/69 гаспадарчым годзе. Асабліва акрэслілі яны заданні, якія патрабуюць супольнай дзейнасці жыхароў паасобных вёсак, існуючых там сельскагаспадарчых гурткоў і мясцовых іншых грамадскіх і палітычных арганізацый. Планы гэтыя вельмі канкрэтныя і разлічаны на рэальныя магчымасці паасобных вёсак. Яны ўжо паспяхова ажыццяўляюцца. (вр)

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Klub kawalerów” (polski), 21-22. „Ojciec żołnierza” (radz.), 23—24. „Jak się pozbyć Helenki” (czeski), 25—26.

**Дубіны**

„Skarb bizantyjskiego kupca” (czeski), „Nikt nie chciał umierać” (radz.), 22—26.

**Нараўка**

„Film z czarującą dziewczyną” (rumuński), „Falstoff” (hiszpański), 22—26.

**Нарва**

„Sobótki” (polski), „Ach ci młodzi” (węgierski), 22—26.

**Чыжы**

„Byłam głupią dziewczyną” (węgierski), „Przed wojną” (jugosłowiański), 22—26.

**Дубічы Царкоўныя**

„Ja twój syn” (czeski), „Życie zamku” (franc.), 22—26.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Droga nad morzem” (bułg.), „Faraon” (polski), 22—26.

**Орля**

„Trzydzieści trzy” (radz.), „Noc bez końca” (bułg.), 22—26.

**Райск**

„Mój przyjaciel Delfin” (USA), „Największe widowisko świata” (USA), 22—26.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Spotkałem nawet szczęśliwych cyganów” (jugosł.), „Weekend z dziewczyną” (polski), 22—24.

**Міхалова**

„Śmierć Belli” (franc.), 21-22. „Agnieszka 46” (polski), 23—24. „Dzień w którym wypłynęła ryba” (grecki), 25—26.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Zemsta OAS” (franc.), 21—22 „Jak się pozbyć Helenki” (czeski), 23—24. „Paryż — Warszawa bez wizy” (polski), 25—26.

**Шудзялава**

„Największe widowisko świata” (USA), „Porucznik jazdy” (radz.), 22—26.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Umarli milczą” (NRD), I-II s. 22—26.

**Новы Двор**

„Pamiętnik pani doktór” (franc.), „Julia, Anna, Genowefa” (polski), 25—26.

**Ліпск**

„Poznańskie słowiki” (polski), „Pociąg pod specjalnym nadzorem” (czeski), 25—26.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch” Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch” Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona” Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 6571



Хто хутчэй?

# ЧЫЯ СЯКЕРА?

Астап узяў сякеру, глянуў на яе і кінуў пад лаву: яна была вышчарблена. Астап кінуўся шукаць брусок, каб навастрыць яе, але не знайшоў. Пайшоў ён да Пракопа папрасіць сякеры. Таго дома не было. Астап узяў на дрывотні сякеру і пашыбаваў дадому.

Надвячоркам мужчыны павыходзілі на вуліцу пагаманіць. Выйшаў і Пракоп. А калі Астап далучыўся да мужчын, той адразу звярнуўся да яго:

— Астапе, а ты маю сякеру не браў, калі мяне дома не было? Калі ўзяў, то аддай.

Астап прыжмурыў вока і хітравата запытаў:

— А ты, Пракопе, учора па дровы ездзіў? Чым жа ты дровы сек, калі сякеры няма?

Пракоп спачатку разгубіўся, а потым, нібыта апраўдваючыся, сказаў:

— Я добра памятаю, што сякеру клаў на воз.

— Значыць, у дарозе згубіў. Відаць, гэта яе і знайшоў я каля Свяцінай гары.

— А ну пакажы, — узрадаваўся Пракоп.

Астап накіраваўся ў свой двор. Узяў кавалак дроту, паклаў на калодку і давай сячы Пракопавай сякераю. Добра вышчарбіўшы яе, Астап вярнуўся да мужчын.

— Паглядзі, Пракопе, няўжо ў цябе такая вышчарбленая сякера? І як ты толькі ёю воз дроў насек?

Мужчыны засмяяліся.

Пракоп узяў у рукі сякеру, пакруціў, пазнаў яе. Але Пракоп, гаспадар дбайны, і глядзець не захацеў на такую сякеру:

— Не, я сваю сякеру ведаю. А такой вышчарбленай у мяне ніколі не было.

— Калі ты гаворыш, што не твая, дык навошта тады і плот гарадзіць, — усміхнуўся Астап і павольна пайшоў у свой двор.

З. Бяспалы

# НІВА

### САКРЭТ ФІРМЫ

У Нью-йоркскім судзе дапытваюць злачынцу:

— Якімі сродкамі вы карысталіся, каб адчыніць сейф?

— Не магу сказаць.

— Чаму?

— Тут прысутнічаюць мае канкурэнты.

### РАСКАЗВАЛІ ПАЛЯЎНІЧЫЯ

— Я бачыў такую крывую дарогу, што камар звярнуў сабе шыю на павароце!

* * *

— Я бачыў такога маленькага чалавека, што, калі яму трэба было ўзлезці на пясчынку, ён прыстаўляў да яе лесвіцу.

* * *

— Я бачыў такую высокую ёлку, што за яе спадарожнікі Зямлі чапляліся.



## ТЫ МНЕ ВЯСНОЮ ПРЫСНІЛАСЯ




Словы М. Шушкевіч.

Музыка Ю. Семянякі

Летняя ночка купальная
Яснай растаяла знічкаю.
Падаюць зоры світальныя
Ў чыстыя воды крынічныя.

Ой ты, дзяўчыначка мілая,
Як жа ты свет упрыгожыла.
Ластаўка ты легкакрылая,
Светлы мой сон растрывожыла.

Ты мне вясною прыснілася
Неразгаданымі чарамі,
Сэрца парыўна забілася
Вольнымі крыламі-марамі.

Пэўна, цябе, ненаглядная,
Стрэў я часінай удалаю.
Ты мая доля спагадная,
І не шкадую ні мала я.

## СПАЧУВАННЕ

Чалавек на вуліцы паводзіў сябе вельмі дзіўна: ён ішоў няроўна, спыняўся, каб аддыхацца. Відаць было, што хадзіць яму — сапраўдная пакута. Прахожыя ўголас спачувалі. Нейкі мужчына паспрабаваў памагчы, але чалавек адмовіўся і паплёўся далей. Людзі пачалі раіцца.

— Трэба нешта рабіць, — пачуліся галасы.

— Чалавек пакутуе, а вы толькі глядзіце, каб хто дапамог!

— Пазваніць у хуткую дапамогу!

— Пакуль той урач прыедзе...

Так гаварылі прахожыя, а чалавек цяжка тупаў далей. Кожны крок нібы дабіваў яго. Здавалася, ён цягне жорны. Па твары яго цёк пот, хоць было холадна.

— Відаць, сэрца падводзіць, — сказала старая жанчына.

— Легчы б яму ды перачакаць, пакуль прыступ пройдзе.

— У такім стане кожны рух можа вой як пашкодзіць.

Цяжка было глядзець, як чалавек ледзьве перастаўляе ногі. Вось яму трэба прайсці вуліцу, і гэта было самае страшнае. Ён бездапаможна азіраўся, спалохана сачыў за машынамі. На твары яго быў жах.

— Можа ён ніколі не бачыў столькі машын?..

— Ды кіньце! У XX стагоддзі не бачыць машын!

Нарэшце да чалавека падышоў міліцыянер, узяў яго пад руку і павольна перавёў на другі бок.

Натоўп разявак пацягнуўся за імі.

— Нельга пакідаць чалавека ў такім стане, — крыкнуў я, заўважыўшы, што міліцыянер збіраецца ісці.

— Папрашу разысціся, — заявіў прадстаўнік улады.

— Вы што, ніколі не бачылі чалавека, у якога забралі службовую машыну?

Фелікс Дзярэцкі

### ПАМЫЛКА

На «вяжоўцу» муляр Яшка
Часта хадзіў з поўнай пляшкай.
Памыліў адзін паверх,
Й паляцеў нагамі ўверх...

Яська Апалонік

### ВЕЛЬМІ ДОБРА

Яшчэ пры жыцці Вальтэра яго асобныя кніжкі, як небяспечныя, па загаду караля спальваліся на агні.

Даведаўшыся пра гэта, Вальтэр сказаў:

— Гэта вельмі добра! Мае кніжкі як каштаны: чым больш іх пячэш на агні, тым яны робяцца смачнейшыя.

### ЗВЫЧАЙНАЯ СПРАВА

Маладая французская пара накіравалася ў аўтамабілі ў паслясвадебнае падарожжа па Галандыі. Калі муж спыніў машыну, жонка сказала:

— Ніколі не думала, што тут такі моцны вецер.

— Прычыну яго не цяжка зразумець: бачыш, колькі ветракоў ўсюды!

### ПАДЗЯЛІЎ

Урач пацыенту:

— Вы не павінны столькі піць. Алкагалізм, ён па спадчыне перадаецца.

— Разумею. Але ў мяне шасцёра дзяцей, на кожнага дастанецца невялікая доля

### ЧАМУ?

Дворнік да жыхара дома:

— Кожную суботу вы вяртаецеся дамоў усё пазней і пазней. Спачатку вы прыходзілі каля 2 гадзін уначы, а цяпер з'яўляецеся ўжо амаль раніцай. Змянілі рэстаран ці што?

— Не, толькі дарога стала даўжэйшай.

— Чаму?

— Таму, што пашырылі вуліцу.

### ПАПЯРЭДЖАННЕ

Настаўнік музыкі да вучня:

— Папярэджваю, калі не будзеш паводзіць сябе лепш, скажу тваім бацькам, што ў цябе ёсць талент!

### КАКЕЦТВА

Як можна лічыць какецтва — добрай якасцю ці недахопам?

Добрай якасцю — калі яно ў жонкі суседа.

### КАМУ ШТО

— І бываюць жа дзівакі на свеце! Яшчэ квакаць не навучыўся, а ўжо заняўся спевамі, — смяялася жаба з салаўя.

П. Шыбут



Знайдзіце дзесяць адрозненняў паміж гэтымі малюнкамі.

### ЛЮБАСЦЬ

Бацька расказваў пра сваіх дзяцей:

— У мяне двоечка — сынок і дачушка. Ды так ужо мяне любяць, так любяць. Як паеду на кірмаш, то пакуль дадому не вярнуся, нават спаць не кладуцца. А як толькі я на парог, кідаюцца з усіх ног да мяне: «Татачка, у якой кішэні ў цябе гасцінцы?»

Б. Сачанка

### ВЫКРУЦІЎСЯ

Садоўнік хлопчыку:

— Хто табе дазволіў узбірацца на грушу?

— Што ж заставалася рабіць, калі вунь шыльдачка вісіць: «Не тапчыце траву!»




### Рэкорд навыварат

Французскія аматары аўтагонак прыдумалі рэкорд навыварат — на самае павольнае праходжанне гоначнай дыстанцыі. Апошні рэкорд быў дасягнуты двума французскімі гоншчыкамі яшчэ ў 1953 годзе, якія прайшлі на адной з вуліц Парыжа дыстанцыю ў 600 метраў за 10 гадзін 14 мінут. Пазней другі гоншчык на матакалясцы з васемнаццацю хуткасцямі прайшоў, не спыняючыся, 660 метраў з хуткасцю тры з чвэрткаю метры ў гадзіну.



### Самая доўгая ў свеце булка

У Галандыі ёсць старынны звычай: у святочныя дні прыпадносіць сваім сябрам у знак павагі і дружбы «крэтэнброд» — вялікі хлеб з разынкамі, выпечаны ў форме доўгай булкі. Галандцы — самыя дасканалыя майстры выпечкі такіх хлябоў.

Аднак «крэтэнброд», выпечаны днямі навучэнцамі школы пекараў у горадзе Вагенінгену, выклікаў захапленне нават у самых старых і вопытных майстроў. І не дзіўна. Даўжыня булкі, аб якой ідзе гутарка, састаўляе 24 метры, а пекары выкарысталі 75 кілаграмаў мукі, 1,7 кілаграма солі, 1,7 кілаграма дрожджаў. «Навучэнцы Вагенінгенскай школы паставілі сусветны рэкорд па выпечцы самага доўгага хлеба», — урачыста абвясціла газета «Алгемеен Дагблад». Наўрад ці хто-небудзь возьмецца абвергнуць гэтае сцвярджэнне.




Воўк у авечай шкуры куды больш небяспечны, чым авечка ў воўчай шкуры.